# ДАР—ДАС

*Д. грамату.* **4.** *зак., што, каму.* Вызваліць ад чаго-н. *Д. доўг. Д. зняволенаму волю.* **5. даруй(це),** *пабочн. сл.* Ужыв. пры звароце да каго-н. з просьбай прабачыць за што-н. *Даруйце, я затрымаўся.* ◊ **Даравацъ жыццё** — памілаваць асуджанага да пакарання смерцю. **Апошняе даруй** (высок.) — развітанне назаўсёды, навек (з нябожчыкам). ‖ *зак.* **падаравáць,** -рýю, -рýеш, -рýе, -рýй; -равáны (да 1, 2, 3 і 4 знач.).‖ *наз.* **даравáнне,** -я, *н.* (да 1, 2 і 3 знач.).

**ДАРАГАВÁТЫ,** -ая, -ае. Даволі дарагі. *Дарагаватае футра. Для мяне гэта дарагавата* (прысл.).

**ДАРАГАВІЗНА,** -ы, *ж.* Становішча, калі цэны на тавары надта высокія. *Д. на прамтавары.*

**ДАРАГІ,** -áя, -óе; даражэйшы. **1.** Які прадаецца або купляецца па высокай цане. *Дарагая мэбля. Дорага* (прысл.) *каштуе.* **2.** *перан.* Які звязаны з вялікімі намаганнямі, ахвярамі. *Дарагая перамога.* **3.** *перан., кар. ф.* Такі, якім даражаць. *Нам дарага памяць герояў. Дарага лыжка к абеду.* **4.** *поўн. ф.* Ласкавы, мілы, любімы. *Д. друг. Пішы часцей, дарагі* (наз.: сяброўскі зварот).

**ДАРÁДЧЫ,** -ая, -ае. **1.** Звязаны з правам абмеркавання якіх-н. спраў, але не з правам вырашэння іх. *Дэлегаты з правам дарадчага голасу.* **2.** Прызначаны для абмеркавання. *Д. пакой* (у судзе).

**ДАРÁДЧЫК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто дае парады. *Цікавы і дасведчаны д.* ‖ *ж.* **дарáдчыца,** -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ДАРАЖЫ́ЦЦА,** -жýся, -жы́шся, -жы́цца; -жымся, -жыцéся, -жáцца; *незак.* (разм.). Запрошваць пры продажы высокую цану. *Будзеш д., ніколі не прадасі.* ‖ *зак.* **падаражы́цца,** -жýся, -жы́шся, -жы́цца; -жы́мся, -жыцéся, -жáцца.

**ДАРАЖЫ́ЦЬ,** -жý, -жы́ш, -жы́ць; -жы́м, -жыцé, -жáць; *незак.* Берагчы, высока цаніць, не жадаць траціць дарэмна. *На рабоце ім даражаць. Д. кожнай мінутай рабочага часу. Д. думкай спецыяліста.*

**ДАРАЖЭ́НЬКІ,** -ага, *мн.* -ія, -іх, *м.* Форма ветлівага звароту да каго-н. *Пачытай, д., яшчэ.*

**ДАРАЖЭ́ЦЬ,** 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *незак.* Павышацца ў цане. *Мэбля даражэе.* ‖ *зак.* **падаражэ́ць,** -э́е.

**ДАРАСЦІ́,** -стý, -сцёш, -сцé; -сцём, -сцяцé, -стýць; -рóс, -расла́, -слó; *зак.* **1.** Вырасці да якой-н. мяжы, да якога-н. узроўню развіцця. *Дрэва дарасло да страхі.* **2.** *перан.* (звычайна з адмоўем «не»). Развіцца ў дастатковай ступені. *Да сапраўднага вучонага ён не дарос.* ‖ *незак.* **дарастáць,** -áю, -áеш, -áе.

**ДАРАШАВÁТЫ,** -ая, -ае (разм.). З украпінамі белых валасоў у поўсць асноўнай афарбоўкі (пра масць коней). *Д. конік.*

**ДАРВÁЦЦА,** -вýся, -вéшся, -вéцца; -вёмся, -вяцéся, -вýцца; -вíся; *зак., да чаго* (разм.). З прагнасцю накінуцца на што-н. *Д. да яды.* ‖ *незак.* **дарывáцца,** -áюся, -áешся, -áецца.

**ДАРВІНІ́ЗМ,** -у, *м.* Заснаваная на вучэнні Ч.Дарвіна матэрыялістычная тэорыя паходжання і развіцця відаў жывёл і раслін шляхам натуральнага адбору, вучэнне аб законах развіцця жывой прыроды. ‖ *прым.* **дарвіні́сцкі,** -ая, -ае.

**ДАРВІНІ́СТ,** -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік дарвінізму. ‖ *ж.* **дарвіні́стка,** -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **дарвіні́сцкі,** -ая, -ае.

**ДÁРМА,** *прысл.* Бясплатна, дарэмна. *Аддаць д. мех бульбы.*

**ДАРМÁ,** *прысл.* **1.** Тое, што і бясплатна, дарэмна. **2.** Бескарысна, марна. *Ні адной гадзіны не страціў д. Д. вы хвалюецеся, усё будзе добра.* **3.** *у знач. часц.* Хай, так і быць. *Не хопіць бульбы? — Д.! Дадасі яшчэ гароху.*

**ДАРМАВЫ́,** -áя, -óе *і* **ДАРМÓВЫ,** -ая, -ае. Бясплатны, атрыманы без грошай. ◊ **Дармавому каню ў зубы не глядзяць** (з нар.) — у падарунках недахопаў не шукаюць.

**ДАРМАЕ́Д,** -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Той, хто не працуе, а жыве на чужы кошт; лайдак, гультай. ‖ *ж.* **дармаéдка,** -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак. ‖ *прым.* **дармаéдскі,** -ая, -ае.

**ДАРМАЕ́ДНІЧАЦЬ,** -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Не працуючы, жыць на чужыя сродкі. ‖ *наз.* **дармаéдства,** -а, *н.*

**ДАРМАЎШЧЫ́НА,** -ы, *ж.* (разм.). Тое, што даецца дарэмна, бясплатна. *На дармаўшчыну кожны падкі.*

**ДАРМÓ,** *прысл.* Тое, што і дармá (у 1 і 3 знач.).

**ДАРÓБКА** *гл.* дарабіць.

**ДАРÓГА,** -і, *ДМ* -рóзе, *мн.* -і, -рóг, *ж.* **1.** Паласа зямлі, прызначаная для язды і хадзьбы, якая злучае асобныя пункты мясцовасці. *Прасёлачная д. Грунтавая д. Асфальтавая д.* **2.** Адлегласць, якую трэба праехаць або прайсці. *Прайсці палавіну дарогі. Даць дарогу каму-н.* (даць праехаць, прайсці; таксама перан.: даць магчымасць расці, развівацца каму-н.). **3.** Падарожжа; знаходжанне ў дарозе. *Усю дарогу праспаў.* **4.** *перан.* Напрамак дзейнасці. *Ісці сваёй дарогай.* ◊ **Апошняя дарога** — пра смерць, пахаванне каго-н. **Бітая дарога** — уезджаная дарога. **Гладкай дарогі** — пажаданне перад ад'ездам каго-н. **Збіцца з дарогі** — пачаць весці няправільны спосаб жыцця. **Ісці прамой дарогай** — жыць сумленным жыццём. **Шчаслівай дарогі!** — добрае пажаданне ў дарогу. ‖ *памянш.* **дарóжка,** -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.*, **дарóжачка,** -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* і **дарóженька,** -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **дарóжны,** -ая, -ае (да 1 і 3 знач.). *Дарожнае будаўніцтва. Дарожнае знаёмства. Дарожныя нататкі.*

**ДАРÓГАЙ,** *прысл.* У час язды. *Пагутарым дарогай.*

**ДАРÓДАВЫ,** -ая, -ае. Перыяд, які працягваецца да пачатку родаў.

**ДАРÓЖКА,** -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* **1.** *гл.* дарога. **2.** Прызначаная для хадзьбы вузкая дарога ў садах, парках і пад. *Пасыпаць дарожкі пяском.* **3.** Тое, што і сцежка. *Лясная д.* **4.** У спартыўных збудаваннях, на аэрадромах: спецыяльна ўстроеная дыстанцыя (для бегу, плавання, узлёту). *Беговая д. Водная д. Узлётная д.* **5.** Вузкі доўгі дыван, а таксама вузкі доўгі абрус. *Паслаць дываноўую дарожку. Карункавая д.* **6.** Рыбалоўная прылада ў выглядзе доўгага шнура з кручком на канцы. *Злавіў шчупака на дарожку.*

**ДАРÓЖНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па будаўніцтву, рамонту і эксплуатацыі дарог і гарадскіх вуліц. ‖ *ж.* **дарóжніца,** -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДАРÓЖНЫ** *гл.* дарога.

**ДАРÓСЛЫ,** -ая, -ае. **1.** Які выйшаў з дзіцячага ўзросту, узмужнеў, набыў сталасць. *Д. юнак.* **2. дарослы,** -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.;* **дарóслая,** -ай, *ж., мн.* -ыя, -ых (да 2 знач.). Які дасягнуў поўнай сталасці па гадах, паводзінах, дзеяннях. *Дарослыя вялі гутарку на прызбе.* ‖ *наз.* **дарóсласць,** -і, *ж.* (да 1 знач.).

**ДАРÓЎНЫ,** -ая, -ае (спец.). **1.** Падораны кім-н., атрыманы ў падарак. *Д. сервіз.* **2.** Які пацвярджае падарунак. *Д. надпіс.* ◊ **Дароўная грамата** (гіст.) — дакумент, што выдаваўся гасударам або ўрадам, паводле якога вызначаліся правы, ільготы манастырам, саслоўям або прыватным асобам.

**ДАРУ́НАК,** -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* (разм.). Тое, што і дар (у 1 знач.).

**ДАРУЧЫ́ЦЬ,** -ручý, -рýчыш, -рýчыць; -рýчаны; *зак., каму каго-што.* **1.** Ускласці на каго-, што-н. выкананне чаго-н. *Д. яму праверыць работу.* **2.** Даверыць каго-, што-н. чым-н. клопатам, апецы. *Нагляд за дзецьмі даручылі вопытнай няні.* ‖ *незак.* **даручáць,** -áю, -áеш, -áе.

**ДАРУЧЭ́НЕЦ,** -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Службовая асоба, што знаходзіцца пры кіраўніку і выконвае службовыя даручэнні.

**ДАРУЧЭ́ННЕ,** -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Справа, даручаная каму-н. для выканання. *Грамадскае д.* **2.** Дакумент, які дае права каму-н. дзейнічаць ад імя асобы, што выдала яго; даверанасць. *Атрымаць зарплату па даручэнню.*

**ДÁРЧЫ,** -ая, -ае: **дарчая грамата** (гіст.) — тое, што і дароўная грамата (*гл.* дароўны).

**ДАРЫ́ЛЬШЧЫК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (кніжн. і спец.). Той, хто дорыць што-н., робіць дарэнне. *Музейныя набыткі ад дарыльшчыкаў.* ‖ *ж.* **дары́льшчыца,** -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ДАРЫСАВÁЦЬ,** -сýю, -сýеш, -сýе; -сýй; -савáны; *зак., каго-што.* **1.** Скончыць рысаваць што-н. *Д. партрэт.* **2.** *перан.* Закончыць стварэнне вобразаў каго-, чаго-н. *Д. вобраз дзеда Талаша.* ‖ *незак.* **дарысóўваць,** -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **дарысóўка,** -і, *ДМ* -сóўцы, *ж.*

**ДАРЫ́ЦЬ,** дарý, дóрыш, дóрыць; дóраны; *незак.* **1.** *каму-чаму каго-што.* Даваць у якасці падарунка, аддаваць бязвыплатна, дармова. *Д. кветкі.* **2.** *перан., каго (што) чым.* Узнагароджваць. *Д. сваёй увагай.* ‖ *зак.* **падары́ць,** -дарý, -дóрыш, -дóрыць; -дóраны.

**ДАРЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫ,** -ая, -ае. **1.** Той, што быў да рэвалюцыі. *Д. перыяд.* **2.** Тое, што і дакастрычніцкі.

**ДАРЭ́КТАР,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст. разм.). У дарэвалюцыйнай беларускай вёсцы — хатні настаўнік. ‖ *прым.* **дарэ́ктарскі,** -ая, -ае.

**ДАРЭ́МНЫ,** -ая, -ае. **1.** Які не прыносіць жаданых вынікаў. *Дарэмныя спробы. Дарэмныя надзеі.* **2.** Беспадстаўны, беспрычынны. *Дарэмная трывога.* **3.** Атрыманы дарма, бясплатны. *Д. хлеб.* ‖ *наз.* **дарэ́мнасць,** -і, *ж.*

**ДАРЭ́МШЧЫНА,** -ы, *ж.* (разм.). **1.** Тое, што дастаецца дарма, бясплатна. *Сквапны на дарэмшчыну.* **2.** Беспадстаўнае, фальшывае абвінавачанне; нагавор. *Такую ўзвялі на яго дарэмшчыну.*

**ДАРЭ́ЧНЫ,** -ая, -ае. Зроблены дарэчы, адпаведны абставінам. *Дарэчнае пытанне.* ‖ *наз.* **дарэ́чнасць,** -і, *ж.*

**ДАРЭ́ЧЫ,** *прысл.* **1.** У час, у падыходзячы момант. *Грошы прыйшлі д.* **2.** *пабочн. сл.* У дадатак да сказанага, у сувязі са сказаным. *Д., яго здольнасцей мы яшчэ не ведаем.*

**ДАРЭ́ШТЫ,** *прысл.* Зусім, поўнасцю, падчыстую. *Аддаў усё д.*

**ДАСАВЕ́ЦКІ,** -ая, -ае. Які адносіцца да часу, што папярэднічаў устанаўленню савецкай улады. *Д. перыяд развіцця літаратуры.*

**ДАСВЕ́ДЧАНЫ,** -ая, -ае. **1.** Шырока адукаваны, эрудзіраваны. *Д. інжынер.* **2.** Вопытны ў чым-н., навучаны чым-н. *Д. ў палітыцы.* ‖ *наз.* **дасвéдчанасць,** -і, *ж.*

**ДАСЕ́КЧЫ** *гл.* дасячы.

**ДАСЕ́ЎКІ,** -сéвак. Заканчэнне сяўбы. *Спраўляць д.*

**ДАСКАКÁЦЬ,** -скачý, -скáчаш, -скáча; -скачы́; *зак., да чаго.* Скачучы, дасягнуць якога-н. месца. *На адной назе даскакаў да дзвярэй.* ‖ *незак.* **даскáкваць,** -аю, -аеш, -ае.

**ДАСКАНÁЛЫ,** -ая, -ае. **1.** Непараўнальны па грунтоўнасці, майстэрству выканання. *Дасканалае даследаванне.* **2.** Дэталёвы, падрабязны разгляд чаго-н. *Д. аналіз фактаў. Даска-*

*нала* (прысл.) *разгледзець.* ‖ *наз.* **дасканаласць,** -і, *ж.*

**ДАСКО́ЧЫЦЬ,** -чу, -чыш, -чыць; *зак.* **1.** Скочыўшы, дасягнуць якога-н. месца. **2.** Дамагчыся свайго. *Ён усюды даскочыць* (разм.).

**ДАСЛА́ЦЬ**[1], дашлю́, дашле́ш, дашле́; дашлё́м, дашляце́, дашлю́ць; дашлі́; дасла́ны; *зак., што.* **1.** Падаслаць дадаткова належную суму грошай. *Д. сорак восем рублёў за пуцёўку.* **2.** Прасунуць да пэўнага месца (патрон, снарад; спец.). *Д. патрон у патроннік.* **3.** Адправіць карэспандэнцыю і пад. *Д. пакет з дакументамі.* ‖ *незак.* **дасыла́ць,** -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **дасы́лка,** -і, *ДМ* -лцы, *ж.* і **дасыла́нне,** -я, *н.*

**ДАСЛА́ЦЬ**[2], -сцялю́, -сце́леш, -сце́ле; -сла́ў, -сла́ла; -сцялі́; -сла́ны; *зак., што.* Пакрываючы паверхню, скончыць рассцілку чаго-н. *Д. лён.* ‖ *незак.* **дасціла́ць,** -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАСЛЕ́ДАВАННЕ,** -я, *н.* **1.** *гл.* даследаваць. **2.** *мн.* -і, -яў. Навуковая праца. *Д. па гісторыі беларускага народа.*

**ДАСЛЕ́ДАВАЦЬ,** -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны. **1.** *зак.* і *незак., каго-што.* Падвергнуць (падвяргаць) навуковаму вывучэнню. *Д. законы прыроды. Д. састаў рэчыва.* **2.** *зак.* і *незак., каго-што.* Абследаваць, агледзець (-лядаць) для высвятлення, устанаўлення чаго-н. *Д. хворага. Д. мясцовасць.* **3.** *зак., што.* Скончыць следства. *Д. крымінальную справу.* ‖ *наз.* **даследаванне,** -я, *н.*

**ДАСЛЕ́ДНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто праводзіць доследы. *Гэта быў заўзяты і мудры д.* ‖ *ж.* **даследніца,** -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **даследніцкі,** -ая, -ае.

**ДАСЛЕ́ДЧЫ,** -ая, -ае. Які адносіцца да навуковага даследавання. *Д. інстытут. Даследчая праца.*

**ДАСЛЕ́ДЧЫК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца навуковымі даследаваннямі. ‖ *ж.* **даследчыца,** -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **даследчыцкі,** -ая, -ае.

**ДАСЛО́ЎНЫ,** -ая, -ае. Зусім дакладны, слова ў слова перададзены. *Д. пераклад. Даслоўна* (прысл.) *перадаць размову.* ‖ *наз.* **даслоўнасць,** -і, *ж.*

**ДАСЛУЖЫ́ЦЦА,** -у́жуся, -у́жышся, -у́жыцца; *зак.* **1.** Служачы, дасягнуць чаго-н. *Д. да чыну капітана.* **2.** Атрымаць наганяй за свае паводзіны (разм. іран.). *Ну што, даслужыўся?* ‖ *незак.* **дaслу́жвацца,** -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАСЛУ́ХАЦЦА,** -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Даведацца пра што-н. ад людзей. *Даслухаўся я, што хутка робаты будуць выконваць цяжкую працу.*

**ДАСЛУ́ХАЦЬ,** -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Выслухаць да канца; праслухаць да якога-н. месца. *Д. прамову. Так і не даслухаў лектара.* ‖ *незак.* **даслу́хваць,** -аю, -аеш, -ае.

**ДАСПАДО́БЫ,** *прысл.* Падабаецца, падыходзіць да густу. *Яму ўсё тут д.*

**ДАСПА́ЦЬ,** -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -па́ў, -па́ла; -пі́; *зак.* **1.** Праспаць да якога-н. часу. *Д. да абеду.* **2.** (часта з адмоўем «не»). Праспаць да канца чаго-н. (разм.). *Колькі начэй не даспаў.* ‖ *незак.* **дасыпа́ць,** -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАСПЕ́ЛЫ,** -ая, -ае. Які добра выспеў. *Д. авёс чакаў сярпа.*

**ДАСПЕ́ХІ,** -аў, *адз.* даспе́х, -а, *м.* **1.** Воінская амуніцыя старых часоў. *Рыцарскія д.* **2.** *перан.* Наогул які-н. рыштунак (разм. жарт.). *Паляўнічыя д.*

**ДАСПЕ́ЦЬ,** 1 і 2 ас. не ўжыв., -пе́е; *зак.* Стаць зусім спелым. *Антонаўкі даспелі.* ‖ *незак.* **даспява́ць,** -а́е.

**ДАСПЯЛІ́ЦЬ,** -пялю́, -пе́ліш, -пе́ліць; -пе́лены; *зак.* Давесці да спелага стану. *Д. памідоры.* ‖ *незак.* **даспе́льваць,** -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **даспе́льванне,** -я, *н.*

**ДАСТА́ВІЦЬ,** -таўлю, -та́віш, -та́віць; -та́ўлены; *зак.* **1.** *каго-што.* Правесці або прывезці да месца прызначэння. *Д. пасылку ў тэрмін. Д. тавар у магазін.* **2.** *што.* Забяспечыць. *Д. усё неабходнае.* ‖ *незак.* **дастаўля́ць,** -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **даста́ўка,** -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 знач.) і **дастаўле́нне,** -я, *н.*

**ДАСТАСАВА́ЛЬНЫ,** -ая, -ае. Такі, які можна дастасаваць. *Лёгка д. спосаб.* ‖ *наз.* **дастасава́льнасць,** -і, *ж.*

**ДАСТАСАВА́ЦЦА,** -су́юся, -су́ешся, -су́ецца; -су́йся; *зак., да каго-чаго.* Прымяніцца, прыйсці ў адпаведнасць з чым-н. *Д. да навакольнага асяроддзя.* ‖ *незак.* **дастасо́ўвацца,** -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **дастасава́нне,** -я, *н.*

**ДАСТАСАВА́ЦЬ,** -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -саваны; *зак., што да чаго.* Ажыццявіць на справе. *Д. тэорыю да практыкі.* ‖ *незак.* **дастасо́ўваць,** -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **дастасава́нне,** -я, *н.*

**ДАСТА́ТАК,** -тку, *м.* **1.** Заможнасць, поўная матэрыяльная забяспечанасць. *Жыць у дастатку.* **2.** звычайна *мн.* (даста́ткі, -аў). Матэрыяльныя сродкі, набыткі. *Дастаткаў вам у хату!*

**ДАСТАТКО́ВЫ,** -ая, -ае. **1.** Такі, якога хапае для чаго-н., які задавальняе пэўныя патрэбы. *Дастатковая колькасць сыравіны. Дастаткова* (прысл.) *падрыхтаваны.* **2.** **дастатко́ва,** *у знач. вык., каго-чаго* або *з інф.* Пра тое, што праяўляецца ў неабходнай меры, маецца ў патрэбнай колькасці. *Сродкаў дастаткова. Дастаткова сказаць адно слова, каб ён паслухаў.* **3.** У патрэбнай ступені абгрунтаваны. *Дастатковыя падставы.* ‖ *наз.* **дастатко́васць,** -і, *ж.*

**ДАСТА́ЎШЧЫК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік, які дастаўляе што-н. *Д. тэлеграм.* ‖ *ж.* **даста́ўшчыца,** -ы, *мн.* -ы, -шчыц.

**ДАСТА́ЦЦА,** -а́нуся, -а́нешся, -а́нецца; -а́нься; *зак., каму.* **1.** Выпасці на чыю-н. долю. *Хата засталася яму пасля бацькі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Атрымаць якое-н. спагнанне, трапіць у непрыемнасць. *Ну і дасталося ж яму сёння* (разм.). ◊ **Дастацца на арэхі** (разм.) — атрымаць нaганяй. ‖ *незак.* **даставацца,** -таюся, -тае́шся, -тае́цца; -таёмся, -таяце́ся; -таю́цца.

**ДАСТА́ЦЬ,** -а́ну, -а́неш, -а́не; -а́нь; *зак.* **1.** *што.* Узяць што-н. такое, што знаходзіцца на адлегласці, унутры чаго-н. або выдаліць што-н. адкуль-н. *Д. талерку з паліцы. Д. кнігу з партфеля. Д. асколак з раны.* **2.** *да каго-чаго, што* або *чаго.* Дацягнуўшыся, дакрануцца да чаго-н. аддаленага або высокага ці глыбокага. *Д. рукой да бэлькі. Д. дно ў рацэ.* **3.** *што.* Раздабыць што-н. (разм.). *Д. білет у тэатр.* **4.** *што* і *чаго.* Нажыць што-н. непрыемнае (часцей пра здароўе; разм.). *Д. запаленне лёгкіх.* **5.** *чаго.* Быць пакараным або пабітым (разм.). *Д. год турмы.* ◊ **Дастаць з-пад зямлі** (разм.) — любым спосабам адшукаць. **Зімой лёду не дастанеш** *у каго* (разм.) — пра вельмі скупога чалавека. **Крукам носа не дастанеш** *каму* (разм.) — не падступішся да яго. **Дастаць па шапцы** (разм.) — атрымаць спагнанне, пакаранне. ‖ *незак.* **даставáць,** -таю́, -тае́ш, -тае́; -таём, -таяце́, -таю́ць.

**ДАСТА́ЧА,** -ы, *ж.* Поўная матэрыяльная забяспечанасць. *Жыць у дастачы.*

**ДАСТО́ЙНЫ,** -ая, -ае. **1.** Які заслугоўвае што-н., варты чаго-н. *Д. пахвалы. Д. ганьбавання.* **2.** Справядлівы, заслужаны. *Дастойная ўзнагарода. Дастойная сустрэча.* **3.** Паважаны, шаноўны. *Д. чалавек.* ‖ *наз.* **дасто́йнасць,** -і, *ж.*

**ДАСТУ́КАЦЦА,** -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** Стукаючы, дабіцца адказу. *Ледзь дастукаўся ў хату.* **2.** Наклікаць на сябе непрыемнасці (разм.). *Дастукаўся, што аштрафавалі.* **3.** *чаго.* Старанна дамагаючыся, дабіцца свайго (разм.). *Д. кватэры.*

**ДАСТУПІ́ЦЦА,** -ступлю́ся, -сту́пішся, -сту́піцца; *зак.* **1.** *да каго-чаго.* Падысці, прыблізіцца (разм.). *Да бадлівай каровы не даступішся.* **2.** (звычайна з адмоўем «не»), *перан., да каго.* Звярнуцца да каго-н. з просьбай, заявай. *Начальнік ганарысты, да яго не даступішся.* ‖ *незак.* **даступа́цца,** -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ДАСТУ́ПНЫ,** -ая, -ае. **1.** Такі, да якога можна прайсці або праехаць. *Лагер размясціўся ў даступным месцы.* **2.** Такі, які падыходзіць для ўсіх або многіх. *Даступныя цэны.* **3.** Адкрыты для зроку. *Д. дляназірання.* **4.** Лёгкі для разумення. *Даступная форма выкладання думак.* **5.** Уважлівы да іншых, не ганарысты. *Гэта быў д. чалавек.* ‖ *наз.* **даступнасць,** -і, *ж.*

**ДАСУ́ХА** і **ДО́СУХА,** *прысл.* Да поўнай сухасці. *Выцерці пасуду д.*

**ДАСЦІ́ПНЫ,** -ая, -ае. **1.** Які вызначаецца вострым розумам, незвычайным уменнем ярка (смешна або з'едліва) выказаць думку. *Д. чалавек. Д. фельетон. Д. жарт.* **2.** Удалы, арыгінальны па свайму зместу, вырашэнню. *Д. праект. Дасціпнае рашэнне.* ‖ *наз.* **дасці́пнасць,** -і, *ж.*

**ДАСЫ́ПАЦЬ,** -плю, -плеш, -пле; -плем, -плеце, -плюць; -паў, -пала; дасы́п; -паны; *зак.* **1.** *што.* Дабавіць да поўнага. *Д. мяшок даверху.* **2.** *чаго.* Дабавіць крыху чаго-н. *Д. солі ў страву.* ‖ *незак.* **дасыпа́ць,** -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **дасыпка,** -і, *ДМ* -пцы, *ж.* і **дасыпа́нне,** -я, *н.*

**ДАСЬЕ́,** *нескл., н.* (спец). Збор дакументаў па якому-н. пытанню, справе, асобе, а таксама папка з такімі дакументамі. *Завесці д. на каго-н.*

**ДАСЮ́ЛЬ,** *прысл.* (разм.). **1.** Да гэтага месца. *Прачытай д.* **2.** Да гэтага часу. *Ад яго д. няма адказу.*

**ДАСЯГА́ЛЬНЫ,** -ая, -ае (кніжн.). Такі, якога можна дасягнуць. *Дасягальная мэта.* ‖ *наз.* **дасяга́льнасць,** -і, *ж.*

**ДАСЯГНУ́ЦЬ,** -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ну́ў, -ну́ла, -лі; -ні́; -сягнуты; *зак., чаго.* **1.** Дайсці, даехаць да пэўнага месца. *Лодка дасягнула сярэдзіны рэчкі.* **2.** Дайсці да якога-н. узроўню ў сваім развіцці, праяўленні, у якіх-н. зменах. *Мароз дасягнуў 40°.* **3.** Распаўсюджваючыся, дайсці да якога-н. месца, да чаго-н. *Чуткі дасягнулі вёскі.* **4.** Дажыць да якога-н. узросту. *Д. паўналецця. Д. глыбокай старасці.* **5.** Дамагчыся чаго-н., якой-н. мэты. *Д. згоды. Д. поспехаў у навуцы.* ‖ *незак.* **дасяга́ць,** -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **дасягне́нне,** -я, *н.*

**ДАСЯ́ЖНЫ,** -ая, -ае. Тое, што і дасягальны. ‖ *наз.* **дасяжнасць,** -і, *ж.*

**ДАСЯЧЫ** і **ДАСЕ́КЧЫ,** -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; -се́к, -кла; -сячы; -се́чаны; *зак.* **1.** Скончыць сячы, рассякаць што-н. *Д. дровы.* **2.** Секучы, дайсці да якой-н. мяжы. *Д. да сярэдзіны.* ‖ *незак.* **дасякаць,** -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **дасяка́нне,** -я, *н.*

**ДА́ТА,** -ы, *ДМ* да́це, *мн.* -ы, дат, *ж.* **1.** Каляндарны час якой-н. падзеі. *Гістарычныя даты.* **2.** Памета, якая паказвае час (год, месяц, лік) напісання чаго-н. (пісьма, артыкула, кнігі і пад.). *Пісьмо без даты. Круглая д.* (аб

# ДАТ—ДАЦ

юбілеі, дні нараджэння, якія падлічваюцца толькі дзесяткамі).

**ДАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́ем, -ту́еце, -ту́юць; -тава́ў, -ва́ла, -лі; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак.* **1.** Абазначыць (абазначаць) дату на чым-н. *Д. заяву ўчарашнім чыслом.* **2.** Устанавіць (-наўліваць) дату якога-н. факта. *Д. падзеі. Д. з'яўленне пісьмовага помніка.* ‖ *наз.* **датава́нне**, -я, *н.*

**ДАТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Дзяржаўная грашовая дапамога прадпрыемствам, установам і арганізацыям для пакрыцця перарасходаў і іншых патрэб. *Атрымаць датацыю.* ‖ *прым.* **датацы́йны**, -ая, -ае.

**ДАТКНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак., да каго-чаго.* Дакрануцца да чаго-н. *Д. смычком да струн.* ‖ *незак.* **датыка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ДАТЛА́**, *прысл.* Поўнасцю, зусім, канчаткова. *Хата згарэла д. Знішчыць д.*

**ДАТУ́ЛЬ**, *прысл.* (разм.). **1.** Да таго месца. *Дайшоў д., дзе дарога зварочвала ў лес.* **2.** Да таго часу. *Сядзеў у хаце д., пакуль не скончыўся дождж.*

**ДАТЧА́НЕ**, -ча́н, *адз.* -ча́нін, -а, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Даніі. ‖ *ж.* **датча́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **да́цкі**, -ая, -ае.

**ДА́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Устройства, якое непасрэдна прымае і перадае спецыяльным прыборам даныя аб дзейнасці механізма, жывога арганізма або якіх-н. з'яў. *Цеплавыя датчыкі.*

**ДАТЫ́ЧНАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* У матэматыцы: прамая лінія, што мае агульны пункт з крывой, але не перасякае яе ў блізкім месцы ад гэтага пункта. *Правесці датычную да акружнасці.*

**ДАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Прыналежны да чаго-н., які мае пэўнае дачыненне да нейкай справы. *Д. да музыкі чалавек. Асобы, датычныя да злачынства.* ‖ *наз.* **даты́чнасць**, -і, *ж.*

**ДАТЫ́ЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чыцца; *незак., каго-што.* Мець дачыненне да каго-, чаго-н. *Справа датычылася прысутных. Гэта вас не датычыцца.*

**ДАТЭРМІНО́ВЫ**, -ая, -ае. Які выконваецца раней устаноўленага тэрміну. *Датэрміновае заканчэнне будоўлі. Датэрмінова* (прысл.) *здаць экзамены.*

**ДАЎБЕ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Круглае палена з патончаным канцом-дзяржаннем для расколвання, убівання чаго-н. у што-н.; невялікая доўбня. *Увагнаў калок даўбешкай. Даўбешкамі забівалі палі.* **2.** *перан.* Пра тупога, няздольнага чалавека (разм. лаянк.). *Д. часам пост займае немалы.*

**ДАЎГА...** (а таксама **доўга...**). Першая частка складаных слоў са знач. працяглы ў часе і вялікі па даўжыні; пішацца, калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр. *даўгавечны, даўганосы.*

**ДАЎГАВА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Некалькі даўжэйшы за нармальны. *Плашч яму д.* **2.** Не круглы на выгляд, прадаўгаваты (разм.). *Твар у хлопца д.*

**ДАЎГАВЕ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто доўга жыве. ‖ *ж.* **даўгаве́чніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДАЎГАВЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны жыць доўгі час. *Гэта была сям'я даўгавечных. Дуб — даўгавечнае дрэва.* **2.** Разлічаны на доўгі час існавання, моцны. *Надзейны і д. самазвал.* ‖ *наз.* **даўгаве́чнасць**, -і, *ж.*

**ДАЎГАВЫ** *гл.* доўг.

**ДАЎГАГРЫ́ВЫ**, -ая, -ае. З доўгай грывай (пра коней). *Даўгагрывыя коні.*

**ДАЎГАДЗЮ́БЫ**, -ая, -ае. З доўгай дзюбай. *Д. журавель.*

**ДАЎГАКРЫ́ЛЫ**, -ая, -ае. З доўгімі крыламі. *Д. стрыж. Сямейства даўгакрылых* (наз.).

**ДАЎГАКРЫ́СЫ**, -ая, -ае. З доўгімі крысамі (пра адзенне). *Даўгакрысае паліто.*

**ДАЎГАЛЕ́ТНІ**, -яя, -яе. Які працягваецца многа гадоў. *Даўгалетняя праца.*

**ДАЎГАЛЕ́ЦЦЕ**, -я, *н.* Доўгае жыццё. *Прыклад чалавечага даўгалецця.*

**ДАЎГАЛЫ́ГІ**, -ая, -ае (разм.). Вельмі высокі, худы і нязграбны. *Д. хлопец.*

**ДАЎГАНО́СІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Невялікі жук з выцягнутай галавой, шкоднік сельскагаспадарчых раслін. *Свірнавы д.*

**ДАЎГАТА́**, -ы́, *ДМ* -гаце́, *мн.* -го́ты, -го́т, *ж.* **1.** Працягласць у часе чаго-н. *Д. дня.* **2.** Геаграфічная каардыната, якая вызначае месца пунктаў на паверхні Зямлі адносна пачатковага мерыдыяна. *Заходнія даўготы.*

**ДАЎГАХВА́ЛЕВЫ**, -ая, -ае. Які працуе на доўгіх хвалях, прымае доўгія хвалі. *Даўгахвалевая радыёстанцыя.*

**ДАЎГАЧА́СНЫ**, -ая, -ае. Які працягваецца доўгі час. *Даўгачасная адсутнасць. Даўгачасная абарона.* ○ **Даўгачасны агнявы пункт** — моцнае абароннае збудаванне, прызначанае для вядзення агню з гармат, кулямётаў і інш. ‖ *наз.* **даўгача́снасць**, -і, *ж.*

**ДАЎГІ́**, -а́я, -о́е. Тое, што і доўгі.

**ДАЎГУНЕ́Ц**, -нцу́, *м.* Гатунак ільну з доўгім валакном.

**ДАЎЖНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто ўзяў у доўг, пазычыў у каго-н. *Жыве нядрэнна сам і мае многіх даўжнікоў. Лічыце мяне сваім даўжніком* (я вельмі вам абавязаны). ‖ *ж.* **даўжні́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц.

**ДАЎЖЫНЯ́**, -і́, *ж.* **1.** Працягласць лініі, плоскасці, цела ў тым кірунку, у якім два крайнія іх пункты найбольш аддалены адзін ад другога. *Змераць даўжыню стала. Меры даўжыні.* **2.** Адлегласць паміж канцамі чаго-н. *Д. вуліцы. Д. ракі.* **3.** Працягласць у часе. *Д. рабочага дня.*

**ДАЎЖЭ́ЗНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Вельмі доўгі (у прасторы). *Прайшлі д. шлях.* **2.** Вельмі працяглы (у часе). *Д. дзень, як цэлы год.*

**ДАЎЖЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -жэ́е; *незак.* Станавіцца больш доўгім. *Пад вечар цені даўжэюць. Вясной дні даўжэюць.* ‖ *зак.* **падаўжэ́ць**, -жэ́е.

**ДА́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм.). Таўкатня, штурханіна. *Д. пры ўваходзе.*

**ДА́ЎКІ**, -ая, -ае. Які перасядае ў горле, выклікае аскому. *Даўкія грушы.* ‖ *наз.* **да́ўкасць**, -і, *ж.*

**ДА́ЎНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Аддаленасць у часе якой-н. падзеі. *Справа гэта мае вялікую д.* **2.** Працяглае існаванне чаго-н. *Д. нашага сяброўства.* **3.** Тэрмін, пасля якога набываецца або траціцца якое-н. права (спец.). *Іскавая д. Тэрмін даўнасці мінуў.* ‖ *прым.* **да́ўнасны**, -ая, -ае.

**ДАЎНЕ́Й**, *прысл.* У старыя часы, у далёкім мінулым. *Д. людзі хадзілі ў саматканым адзенні.*

**ДАЎНЕ́ЙШЫ**, -ая, -ае. **1.** Выш. ст. да прым. даўні. **2.** Які адбыўся задоўга да цяперашняга часу; старадаўні. *Даўнейшыя звычаі адышлі ў нябыт.* **3.** **даўне́йшае**, -ага, *н.* Даўномінулае. *Д. не вернецца ніколі.*

**ДА́ЎНІ**, -яя, -яе. **1.** Які быў, адбыўся даўно. *Прыгадаўся д. выпадак.* **2.** Які існуе здаўна. *Даўняе знаёмства. Справа даўняя — ужо не мае значэння.*

**ДАЎНІНА́**, -ы́, *ж.* (разм.). Былыя, даўнія часы; старадаўнасць. *Пачаў успамінаць даўніну. Гэта памяць даўніны глыбокай.*

**ДАЎНО́**, *прысл.* **1.** Многа часу таму назад. *Д. гэта было.* **2.** На працягу доўгага часу. *Ён д. тут жыве.* ◊ **Даўно б так!** — ужыв. пры адабрэнні чыйго-н. учынку. **Даўным-даўно** (разм.) — вельмі даўно. **З даўён-даўна** — з даўніх часоў. ‖ *памянш.* **даўне́нька** (разм.).

**ДАЎНОМІНУ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які існаваў, адбыўся ў далёкім мінулым. *Даўномінулыя падзеі.* ○ **Даўномінулы час** — у граматыцы: асобая форма дзеяслова прошлага часу ў некаторых мовах, што абазначае дзеянне, якое папярэднічала другому дзеянню мінулага часу.

**ДАФЕАДА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да эпохі, што папярэднічала феадалізму. *Д. перыяд гісторыі.*

**ДАХ**, да́ху, *мн.* -і, -аў, *м.* Верхняя частка будынка, якая засцерагае яго ад дажджу, снегу. *Чарапічны д.* ◊ **Пад адным дахам** (разм.) — у адным доме з кім-н. ‖ *прым.* **да́хавы**, -ая, -ае. *Дахавае жалеза.*

**ДАХА́**, -і́, *ДМ* дасе́, *мн.* до́хі і (з ліч. 2, 3, 4) дахі́, до́хаў, *ж.* Шуба з футравым мехам і падкладкай. *Мядзведжая д.*

**ДАХА́ТЫ**, *прысл.* Дадому, да сваёй сям'і; у родныя мясціны. *Ісці д. На канікулы ехаць д.*

**ДАХАЎШЧЫ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Рабочы, спецыяліст, які крые дах. *Д. крые дах.* ‖ *прым.* **дахаўшчы́цкі**, -ая, -ае.

**ДАХО́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Грошы ці матэрыяльныя каштоўнасці, якія атрымліваюцца ад прадпрыемства або ад якога-н. роду дзейнасці. *Мільённыя даходы калгасаў. Нацыянальны д. Непрацоўныя даходы.* ‖ *прым.* **дахо́дны**, -ая, -ае. *Даходная частка бюджэту.*

**ДАХО́ДЗІЦЬ** *гл.* дайсці.

**ДАХО́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Даступны для разумення. *Даклад чытаўся даходлівай мовай.* ‖ *наз.* **дахо́длівасць**, -і, *ж.*

**ДАХО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* даход. **2.** Прыбытковы, які прыносіць даход. *Даходнае прадпрыемства.* ‖ *наз.* **дахо́днасць**, -і, *ж.*

**ДА́ЦКІ** *гл.* датчане.

**ДА́ЦЦА**, да́мся, дасі́ся, да́сца; дадзі́мся, дасце́ся, дадуцца; да́ўся, дала́ся, дало́ся; да́йся; *зак.* **1.** Дазволіць што-н. з сабой зрабіць; паддацца. *Сяргееў конь наравісты: не даецца.* **2.** Быць засвоеным. *Матэматыка яму далася лёгка.* **3.** Стукнуцца чым-н. аб што-н. (разм.). *Моцна даўся галавой аб вушак.* **4.** Стаць прадметам увагі (разм.). *Даўся табе гэты пустаслоў.* ◊ **Дацца ў знакі** (разм.) — запомніцца. **Дзіву дацца** — здзівіцца. **Не дацца ў крыўду** — сумець пастаяць за сябе. ‖ *незак.* **дава́цца**, даюся, даешся, даецца; даёмся, даяцёся, даюцца (да 1 і 2 знач.).

**ДАЦЬ**, дам, дасі́, дасць; дадзі́м, дасце́, дадуць; даў, дала́, дало́; дай; да́дзены; *зак.* **1.** *каго-што каму.* Уручыць, перадаць з рук у рукі непасрэдна. *Д. кнігу. Д. грошы на дарогу. Д. свой адрас. Колькі дасі за боты?* (перан.: заплаціш). **2.** *што* або *з інф. каму.* Тое, што і прадаставіць. *Д. кватэру. Д. работу. Д. дарогу. Д. магчымасць што-н. зрабіць.* **3.** *што каму.* Атрымаць як вынік чаго-н. *Зямля дала багатыя ўраджаі.* **4.** *што каму* і *без дап.* Устроіць для каго-н. якое-н. грамадскае мерапрыемства. *Д. абед. Д. канцэрт у гонар госця.* **5.** *што каму-чаму.* Вызначыць узрост. *На выгляд яму не дасі і сарака год.* **6.** *што.* У спалучэнні з назоўнікам выявіць якое-н. дзеянне, стан. *Д. згоду. Д. асечку. Д. званок. Д. асадак.* **7.** *што.* Падвергнуць чаму-н. *Д. спагнанне. Спірыду за хуліганства далі год.* **8.** Нанесці ўдар (разм.). *Д. поўху. Д. у зубы.* **9.** *што.* Дарučыць, вызначыць. *Д. заданне.* **10.** **дай**, *часц.* Пры дзеяслове 1 ас. буд. часу абазначае

спробу зрабіць што-н. або подступ да дзеяння (разм.). *Дай, думаю, сяду, адпачну.* ◊ **Без дай прычыны** — беспадстаўна. **Даць зразумець** — намякнуўшы, даць магчымасць здагадацца. **Дай бог ногі** (разм.) — пра жаданне хутчэй уцячы адкуль-н. **Дай бог чутае бачыць** (разм.) — пажаданне здзейсніць абяцанне. **Даць аб сабе знаць** — прыслаць аб сабе вестку; абазвацца. **Даць волю рукам** — біць каго-н. **Даць галаву на адсячэнне** — паручыцца сваім жыццём. **Даць пачатак** — з'явіцца крыніцай чаго-н. **Даць слова** — прадаставіць магчымасць выступіць на сходзе. **Не даць (сябе) у крыўду** — сумець пастаяць за сябе. **Не даць ходу** — затрымаць што-н. **Даць пуда** (разм.) — прамахнуцца ў якой-н. справе. **Даць кругу** (разм.) — прайсці ці праехаць лішнюю адлегласць, рухаючыся не нацянькі. **Даць бярозавай кашы** (разм.) — адсцябаць за які-н. учынак. **Даць па шапцы** (разм.) — выгнаць, зняць з работы. **Даць дыхту** (разм.) — даць наганяй. **Даць пытлю** (разм.) — адлупцаваць каго-н. **Даць здачы** — адказаць каму-н. тым жа. **Даць цягу** (разм.) — уцячы. **Даць драла (дзёру, драпака, лататы)** (разм.) — пусціцца наўцёкі. **Даць дразда** (разм.) — вызначыцца ў працы, танцах, гульні. **Сам не гам і другому не дам** (прымаўка) — не карыстаецца сам чым-н. і іншым не дазваляе. **Даць праборку** (разм.) — адчытаць каго-н. **Даць па руках** — пакараць; рашуча папярэдзіць. **Даць дулю** (разм.) — нічога не даць. **Даць гасла** (разм.) — паведаміць, даць знаць. **Даць у лапу** (разм.) — падкупіць каго-н. хабарам. **Даць фору** (разм.) — адчуваючы сябе мацнейшым у якой-н. гульні, даць наперад праціўніку якую-н. перавагу (у шахматах — фігуру). **Даць дуба** (разм.) — памерці. ‖ *незак.* **даваць,** даю, даеш, дае; даём, даяце, даюць. ‖ *наз.* **да́ча,** -ы (да 1 і 6 знач.; спец.). *Дача паказанняў.*

**ДАЦЭ́НТ,** -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вучонае званне выкладчыка вышэйшай навучальнай установы, якое папярэднічае прафесару, а таксама асоба, якая мае гэта званне. ‖ *прым.* **дацэ́нцкі,** -ая, -ае.

**ДАЦЭ́НТРАВЫ,** -ая, -ае (спец.). Які накіроўваецца ў руху ад перыферыі да цэнтра. *Дацэнтравая сіла.*

**ДАЦЭНТУ́РА,** -ы, *ж.* **1.** Званне, пасада дацэнта. *Атрымаць дацэнтуру.* **2.** *зб.* Дацэнты. *Прысутнічала ўся д.*

**ДАЦЯГНУ́ЦЦА,** -цягну́ся, -ця́гнешся, -ця́гнецца; -цягні́ся; *зак., да чаго.* **1.** Выцягваючыся, дастаць што-н. *Д. да столі.* **2.** Цягнучыся ўздоўж, дасягнуць якой-н. мяжы. *Чарга дацягнулася да дзвярэй.* **3.** Марудна прахадзячы, дасягнуць якога-н. тэрміну. *Час дацягнуўся да восені.* **4.** З цяжкасцю дайсці да якога-н. месца (разм.). *Стары ледзь дацягнуўся да ложка.* ‖ *незак.* **дацягвацца,** -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАЦЯГНУ́ЦЬ,** -цягну́, -ця́гнеш, -ця́гне; -цягні́; -ця́гнуты; *зак.* **1.** *што.* Працягнуць да якой-н. мяжы. *Д. руку да паліцы. Д. провад да вёскі. Д. песню да канца.* **2.** *каго-што да чаго.* Цягнучы, даставіць куды-н., да чаго-н. *Д. бервяно да берага.* **3.** *што* і *без дап.* З цяжкасцю даставіць да чаго-н. (самалёт, машыну); з цяжкасцю дабрацца да якога-н. месца (разм.). *Самалёт ледзь дацягнуў да аэрадрома.* **4.** *што да чаго.* Прамарудзіць з якой-н. справай (разм.). *Д. здачу залікаў да восені.* **5.** Пражыць у якім-н. стане да пэўнага часу (разм.). *Хворы дацягнуў да вясны.* **6.** *да чаго.* Пражыць на свае сродкі так, каб іх хапіла да пэўнага тэрміну. *Д. да зарплаты.* ‖ *незак.* **дацягваць,** -аю, -аеш, -ае.

**ДАЦЯМНА́,** *прысл.* Да таго часу, калі сцямнее. *Дзеці гулялі д.*

**ДА́ЧА**[1], -ы, *ж.* **1.** *гл.* даць. **2.** Порцыя корму на адзін прыём. *Д. аўса. Сутачная д. сена.*

**ДА́ЧА**[2], -ы, *мн.* -ы, дач, *ж.* Дом у загарадней мясцовасці для летняга адпачынку. *Жыць на дачы.* ‖ *памянш.* **да́чка,** -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **да́чны,** -ая, -ае. *Дачная мясцовасць.*

**ДА́ЧА**[3], -ы, *мн.* -ы, дач, *ж.* (спец.). Участак зямлі пад лесам, лясная дзялянка. *Лясныя дачы.*

**ДАЧАКА́ЦЦА,** -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** *каго-чаго.* Праіснаваць, прабыць да з'яўлення чаканага. *Д. перамогі. Д. поезда.* **2.** *чаго* і *без дап.* Сваімі паводзінамі давесці сябе да чаго-н. непрыемнага. *З гэтымі махінацыямі ён дачакаецца непрыемнасцей. Ты ў мяне дачакаешся!* (пагроза).

**ДАЧАРНА́,** *прысл.* Да чарнаты. *За лета загарэў д.*

**ДАЧА́СНЫ,** -ая, -ае. Які адбыўся раней тэрміну. *Дачаснае выступленне. Дачасна* (прысл.) *абарвалася жыццё.* ‖ *наз.* **дача́снасць,** -і, *ж.*

**ДАЧАЎЛАДА́ЛЬНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (афіц.). Уласнік, гаспадар дачы[2]. ‖ *ж.* **дачаўлада́льніца,** -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **дачаўлада́льніцкі,** -ая, -ае.

**ДАЧКА́,** дачкі́, *ДМ* дачцэ́, *мн.* до́чкі *і* (з *ліч.* *2, 3, 4*) дачкі́, дачо́к *і* до́чак, *ж.* **1.** Асоба жаночага полу ў адносінах да сваіх бацькоў. **2.** *чаго.* Жанчына як носьбіт лепшых рыс свайго народа, грамадства, краіны (высок.). *Вера Харужая — слаўная д. беларускага народа.* ‖ *памянш.-ласк.* **дачу́шка,** -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (да 1 знач.) *і* **дочу́хна,** -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **даччы́н,** -а́, -о́ (да 1 знач.) *і* **даччы́ны,** -ая, -ае (да 1 знач.). *Даччына сукенка.*

**ДА́ЧНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто жыве, адпачывае летам на дачы[2]. *Летам тут сем'ямі жывуць дачнікі.* ‖ *ж.* **да́чніца,** -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДАЧУ́ЦЦА,** -чу́юся, -чу́ешся, -чу́ецца; -чу́йся, -чу́лася, -чу́ліся; *зак., пра каго-што* і *аб кім-чым.* Даведацца з чутак, якія дайшлі. *Пра пажар ён дачуўся ўчора. Аб узнагародзе старшыня дачуўся толькі сёння.* ‖ *незак.* **дачува́цца,** -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (разм.).

**ДАЧЧЫ́НЫ,** -ая, -ае. **1.** *гл.* дачка. **2.** Які ўтварыўся ў выніку аддзялення ад чаго-н. (спец.). *Даччыная фірма.*

**ДАЧЫНЕ́ННЕ,** -я, *н.* Сувязь з кім-, чым-н.; адносіны да каго-, чаго-н. *Мець д. да справы.*

**ДАЧЫ́РВАНА,** *прысл.* Да чырвонага колеру. *Жалеза распалілася д.*

**ДАЧЫСТА́,** *прысл.* **1.** Да чысціні. *Вымыць д.* **2.** *перан.* Падчыстую, нічога не пакідаючы (разм.). *З'елі ўсё д. Абакралі д.*

**ДАЧЫТА́ЦЬ,** -та́ю, -та́еш, -та́е; -та́ны; *зак., што.* **1.** Скончыць чытанне чаго-н. *Д. раман.* **2.** Прачытаць да якога-н. месца. *Д. кнігу да другога раздзела.* ‖ *незак.* **дачытваць,** -аю, -аеш, -ае.

**ДА́ШАК,** -шка, *мн.* -шкі, -шкаў, *м.* (абл.). Стрэшка над студняй. *Адрамантаваць д.* ‖ *прым.* **да́шкавы,** -ая, -ае.

**ДАШКО́ЛЬНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Дзіця дашкольнага ўзросту. *Рэгістрацыя дашкольнікаў.* **2.** Педагог, які займаецца з дзецьмі дашкольнага ўзросту (разм.). ‖ *ж.* **дашко́льніца,** -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДАШКО́ЛЬНЫ,** -ая, -ае. Які адносіцца да ўзросту, што папярэднічае паступленню дзіцяці ў школу. *Дашкольнае выхаванне. Дашкольныя ўстановы.*

**ДАШУКА́ЦЦА,** -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). **1.** *каго-чаго.* Настойліва шукаючы, знайсці. *Не магу д. ключоў.* **2.** *чаго.* Даведацца, высветліць. *Д. праўды.* ‖ *незак.* **дашу́квацца,** -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАШЧА́НІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Вялікая лодка з плоскім дном. *Д. ваду прапускае.* **2.** Будыніна з дошак (разм.). *Улетку і ў дашчаніку добра.*

**ДАШЧА́НЫ,** -ая, -ае. Зроблены з дошак. *Дашчаная перагародка.*

**ДАШЧЭ́НТУ,** *прысл.* Канчаткова, поўнасцю (пераважна з дзеясловамі згарэць, разбурыць, зруйнаваць). *Хата згарэла д. Землетрасенне разбурыла горад д.*

**ДАЯДА́ЦЬ** *гл.* даесці.

**ДАЯЗДЖА́ЦЬ** *гл.* даехаць.

**ДАЯ́РКА,** -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Работніца, якая доіць і даглядае кароў. *Калгасныя д.* ‖ *м.* **дая́р,** -а́, *мн.* -ы́, -о́ў.

**ДБА́ЙНЫ,** -ая, -ае. Старанны, руплівы. *Д. гаспадар. Усё ў гумне дбайна* (прысл.) *дагледжана.* ‖ *наз.* **дба́йнасць,** -і, *ж.*

**ДБАЦЬ,** дба́ю, дба́еш, дба́е; *незак., пра каго-што, аб кім-чым* і *без дап.* Праяўляць клопаты аб кім-, чым-н., турбавацца пра каго-, што-н. *Аб ім дбалі чужыя людзі. Д. пра парадак у гаспадарцы. Хто дбае, той і мае* (з нар.). ◊ **І не дбае** — не звяртае ўвагі. ‖ *зак.* **падба́ць,** -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **дба́нне,** -я, *н.*

**ДВА,** двух, двум, двума́, аб двух, *м.* і *н.;* дзве, дзвюх, аб дзвюх, *ж., ліч. кольк.* **1.** Лік 2. *Двойчы два — чатыры. Напісаць лічбу 2.* **2.** Колькасць 2. *Два сярпы. Дзве хвіліны. За аднаго бітага двух нябітых даюць* (прыказка). ◊ **Два—тры** (разм.) — некалькі, нямнога (ужыв. для прыблізнага абазначэння невялікай колькасці чаго-н.). *Мароз два—тры градусы.* **Два боты — пара** (разм. іран.) — пра людзей, у многіх адносінах падобных адзін на аднаго, вартых адзін аднаго. **Бачыць на два аршыны пад зямлёй** (разм., часта іран.) — адрозніваецца вялікай праніклівасцю. **Ні два і ні паўтара** (разм.) — нешта няпэўнае. **Як двойчы два (чатыры)** — бясспрэчна, зразумела, ясна.

**ДВАІ́СТЫ,** -ая, -ае. **1.** Такі, які змяшчае ў сабе дзве розныя якасці, часта супярэчлівыя адна ў адносінах да другой. *Дваістая натура. Дваістае пачуццё.* **2.** Двудушны. *Дваістая палітыка крахам канчаецца.* ‖ *наз.* **дваі́стасць,** -і, *ж.*

**ДВАІ́ЦЦА,** 1 і 2 ас. не ўжыв., двої́цца; *незак.* Здавацца падвоеным (пра зрокавае ўяўленне). *У вачах дваіліся ўсе прадметы. Хто баіцца, таму ўваччу дваіцца* (прыказка).

**ДВАІ́ЦЬ,** дваю́, двої́ш, двої́ць; *незак., што.* **1.** Паўторна ўзорваць, пераворваць. *Д. поле.* **2.** Падзяляць на дзве часткі (спец.). *Д. скуры.* ‖ *зак.* **падваі́ць,** -ваю́, -вої́ш, -вої́ць; -во́ены. ‖ *наз.* **дваенне,** -я, *н.*

**ДВАЙКО́ВЫ,** -ая, -ае (спец.). Заснаваны на лічэнні двойкамі (парамі). *Двайковая сістэма злічэння.*

**ДВАЙНІ́К**[1], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м., чый* або *каго.* Чалавек, які мае поўнае падабенства з другім чалавекам. *Мой д.*

**ДВАЙНІ́К**[2], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Двухпудовая гіра. *Спартсмен практыкуецца з двайнікам.*

**ДВАЙНЫ́,** -а́я, -о́е. **1.** Які складаецца з дзвюх аднародных частак, двух аднародных прадметаў. *Чамадан з двайным дном.* **2.** У два разы большы, падвойны. *Д. расход.* ○ **Двайная бухгалтэрыя** — від бухгалтарскага ўліку, пры якім уліковыя аперацыі адлюстроўваюцца двойчы ў розных кнігах.

**ДВАЙНЯ́ТЫ,** -ня́т (разм.). Двое дзяцей, якіх адначасова нарадзіла адна маці.

# ДВА—ДВУ

**ДВАНАЦЦАЦІПЕ́РСНЫ:** **дванаццаціперсная кішка** — пачатковая частка тонкай кішкі чалавека, якая ідзе ад страўніка [назву атрымала ад даўжыні, роўнай 12 пярстам, г.зн. пальцам, у іх папярочніку].

**ДВАНА́ЦЦАЦЬ,** -і, *ліч. колък.* Лічба і колькасць 12. *Тры разы па чатыры — д. Д. месяцаў.* ‖ *парадк.* **дванаццаты,** -ая, -ае.

**ДВАРАНІ́Н,** -а, *мн.* -ра́не *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) дваране́ны, -ран, *м.* Асоба, якая належала да дваранства. ‖ *ж.* **дваранка,** -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **дваранскі,** -ая, -ае.

**ДВАРА́НСТВА,** -а, *н.* У феадальным і, пазней, у капіталістычным грамадстве: прывілеяваны пануючы клас (памешчыкаў і вышэйшых чыноўнікаў, якія выслужыліся перад уладай). ‖ *прым.* **дваранскі,** -ая, -ае.

**ДВАРНЯ́К,** -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Дваровы сабака простай пароды. *Насустрач нам кінуўся здаравенны д.*

**ДВАРО́ВЫ,** -ая, -ае. **1.** *гл.* двор. **2.** Які адносіцца да сядзібы і знаходзіцца на дварэ. *Дваровыя пабудовы.* **3.** Які належыць да дворні (гіст.). *Дваровыя людзі.* **4. дваровы,** -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Прыгонны селянін, узяты ў панскі двор для абслугоўвання памешчыка. *Флігель для дваровых.*

**ДВАРЦО́ВЫ,** -ая, -ае. **1.** *гл.* дварэц. **2.** Які адносіцца да двара[2]. *Д. парк.* ○ **Дварцовы пераварот** — насільная змена манарха прыдворнай знаццю без удзелу шырокіх грамадскіх мас.

**ДВАРЫ́ШЧА,** -а, *мн.* -ы, -ры́шч *і* -аў, *н.* **1.** Участак з хатай і іншымі гаспадарчымі будынкамі; месца, дзе раней была сядзіба. *Д. зарасло травой.* **2.** Месца, дзе быў раней двор, жыллё радавітай асобы (гіст.). *Радзівілава д.*

**ДВАРЭ́Ц,** -рца́, *мн.* -рцы́, -рцо́ў, *м.* **1.** Вялікі і прыгожы па архітэктуры будынак. *Мармуровыя дварцы Венецыі.* **2.** Такі будынак, у якім пражывае манарх са сваёй сям'ёй. *Летні д. Пятра Першага.* ‖ *прым.* **дварцовы,** -ая, -ае.

**ДВАРЭ́ЦКІ,** -ага, *мн.* -ія, -іх, *м.* У памешчыцкім і буржуазным грамадстве: старшы лакей у панскім доме, які кіраваў хатняй гаспадаркай і абслуговым персаналам.

**ДВАЦЦАЦІГАДО́ВЫ,** -ая, -ае. **1.** *гл.* дваццацігоддзе. **2.** Які праіснаваў 20 год. *Дваццацігадовая служба.*

**ДВАЦЦАЦІГО́ДДЗЕ,** -я, *н.* **1.** Тэрмін у дваццаць год. *З той пары мінула цэлае д.* **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, што адбылася дваццаць год назад. *Адзначыць д. працоўнай дзейнасці.* **3.** *каго.* Чыя-н. дваццатая гадавіна. *Адзначыць сваё д.* (дваццаты дзень нараджэння). ‖ *прым.* **дваццацігадовы,** -ая, -ае.

**ДВА́ЦЦАЦЬ,** -і́, -ццю́, *ліч. колък.* Лічба і колькасць 20. *Д. дзеліцца на пяць. Д. рублёў.* ◊ **Дваццаць разоў** (разм.) — многа разоў гаварыць, паўтараць. ‖ *парадк.* **дваццаты,** -ая, -ае.

**ДВАЮ́РАДНЫ,** -ая, -ае. Тое, што і стрыечны.

**ДВАЯ...** (*гл.* **двое...**). Першая частка складаных слоў; ужыв. замест «двое...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр. *дваяборац, дваяверац, дваяжэнец, дваяжэнства, дваяшлюбнасць.*

**ДВАЯБО́РАЦ,** -рца, *мн.* -рцы, -рцаў, *м.* Спартсмен, які ўдзельнічае ў дваябор'і. ‖ *ж.* **дваяборка,** -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак.

**ДВАЯБО́Р'Е,** -я, *н.* Спартыўныя спаборніцтвы, якія складаюцца з двух відаў практыкаванняў. *Лыжнае д.* (гонкі і прыжкі з трампліна). *Цяжкаатлетычнае д.*

**ДВАЯКАВЫ́ПУКЛЫ,** -ая, -ае. Выпуклы з абодвух бакоў. *Дваякавыпуклая лінза.*

**ДВАЯКАДЫ́ХАЮЧЫЯ,** -ых, *адз.* -ая, -ай, *ж.* Падклас рыб, якія дыхаюць не толькі жабрамі, але і лёгкімі.

**ДВАЯКАЎВАГНУ́ТЫ,** -ая, -ае. Увагнуты з абодвух бакоў. *Дваякаўвагнутае шкло.*

**ДВО́Е,** дваі́х, дваі́м, дваі́мі, *ліч. зб.* **1.** З назоўнікамі агульнага роду, што абазначаюць асоб, з разам узятымі асабовымі назоўнікамі мужчынскага і жаночага роду, з назоўнікамі мн.л., якія абазначаюць жывых істот абодвух полаў, з ас. займ. мн. л. і без залежнага слова: колькасць два. *Засталося д. сірот. Сядзелі д.: хлопец і дзяўчына. Д. свіней. Нас было д. Гэту работу ўжо дваім прапаноўвалі.* **2.** З назоўнікамі, якія абазначаюць маладых істот: два. *Бегае д. парасят. Д. дзяцей.* **3.** звычайна *Н* і *В.* З множналікавымі назоўнікамі: два прадметы. *Д. саней. Д. нажніц. Д. акуляраў. Д. штаноў. Д. сутак.* **4.** звычайна *Н* і *В.* З некаторымі назоўнікамі, якія абазначаюць прадметы і існуюць або носяцца ў пары: дзве пары. *Д. ботаў. Д. рукавіц. Абуць д. панчох.* ◊ **На сваіх дваіх** (разм. жарт.) — пехатой. **За дваіх** (працаваць, есці і пад.) — так, як могуць двое.

**ДВОЕ...** (а таксама **двая...**). Першая частка складаных слоў, якая абазначае два, двайны, пішацца «двое...» тады, калі ў другім слове націск падае не на першы склад, напр.: *двоеўладдзе, двоеўладны.*

**ДВОЕЎЛА́ДДЗЕ,** -я, *н.* Адначасовае існаванне дзвюх улад у адной краіне, арганізацыі. ‖ *прым.* **двоеўладны,** -ая, -ае.

**ДВО́ЕЧНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Вучань, які часта атрымлівае двойкі. ‖ *ж.* **двоечніца,** -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДВО́ЙЧЫ,** *прысл.* Два разы. *Д. сказаць. Д. тры — шэсць.*

**ДВОР**[1], двара́, *мн.* двары́, дваро́ў, *м.* **1.** Участак зямлі паміж гаспадарчымі будынкамі. *Выйсці з хаты на д.* **2.** Сялянскі дом з усімі будынкамі каля яго; асобная сялянская гаспадарка. *Вёска на сорак двароў.* **3.** Маёнтак (гіст.). *Панскі д.* **4.** Памяшканне, будынак спецыяльнага прызначэння (у калгасе, саўгасе). *Жывёльны д. Птушыны д.* ○ **Манетны двор** — дзяржаўнае прадпрыемства, дзе адбываецца чаканка манет і вырабляюцца ордэны, медалі і інш. ◊ **На дварэ** — на адкрытым паветры, не ў хаце. **Заезны двор (дом)** — у дарэвалюцыйнай Беларусі: дом пры дарозе з начлегам і месцам для коней. **Ні кала ні двара** ў каго (разм.) — няма нічога. ‖ *прым.* **дваровы,** -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ДВОР**[2], двара́, *м.* У манархічных краінах: манарх і яго прыбліжаныя. *Царскі д. Быць пры двары.*

**ДВО́РНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Работнік, які падтрымлівае чысціню і парадак на двары і на вуліцы каля дома. **2.** Устройства для механічнага выцірання назіральнага шкла ў машыне ад снегу, вільгаці, пылу і інш. ‖ *ж.* **дворнічыха,** -і, *ДМ* -чысе, *мн.* -і, -чых (да 1 знач.). ‖ *прым.* **дворніцкі,** -ая, -ае (да 1 знач.).

**ДВО́РНІЦКАЯ,** -ай, *мн.* -ія, -іх, *ж.* (уст.). Памяшканне для дворніка.

**ДВО́РНЯ,** -і, *ж., зб.* Пры прыгонным праве: хатнія слугі ў памешчыцкім доме. *Збеглася ўся д.*

**ДВУ...** *і* **ДВУХ...** Першая частка складаных слоў са знач.: 1) які складаецца з дзвюх якіх-н. адзінак, змяшчае дзве аднолькавыя прыметы, напр. *двудушнасць, двудушнічаць, двурушнік, двурушніцтва, двурушны, двухбортны, двухгаловы, двухгадовы, двухгалосны, двухгорбы, двухгранны, двухкапеечны, двухкрылы, двухматорны, двухмерны, двухпакаёвы, двухрогі, двухспальны, двух'ярусны;* 2) які мае адносны да двух, да дзвюх, напр. *двухгадзінны* (поезд, г. зн. які адыходзіць у дзве гадзіны).

**ДВУАДЗІ́НЫ,** -ая, -ае (кніжн.). Які складаецца з дзвюх частак, двух элементаў і ўтварае адзінства.

**ДВУДУ́ШНЫ,** -ая, -ае. Няшчыры, крывадушны. *Гэта быў д. чалавек.* ‖ *наз.* **двудушнасць,** -і, *ж.*

**ДВУКО́ССЕ,** -я, *н.* Значкі (« ») для выдзялення простай мовы, цытат, загалоўкаў, а таксама слоў, ужытых ва ўмоўным або іранічным сэнсе. *Узяць цытату ў д. Вучоны ў двукоссі* (так званы; іран.).

**ДВУКРО́П'Е,** -я, *н.* Знак прыпынку ў выглядзе дзвюх кропак, размешчаных адна над другой.

**ДВУРУ́ШНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (пагард.). Чалавек, які паказвае, што ён адданы каму-н., а на справе дзейнічае на карысць варожага боку. ‖ *ж.* **двурушніца,** -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **двурушніцкі,** -ая, -ае.

**ДВУРУ́ШНІЦТВА,** -а, *н.* (пагард.). Паводзіны двурушніка. *Палітычнае д.* ‖ *прым.* **двурушніцкі,** -ая, -ае.

**ДВУРУ́ШНІЧАЦЬ,** -аю, -аеш, -ае; *незак.* (пагард.). Быць двурушнікам, дзейнічаць, як двурушнік. ‖ *зак.* **здвурушнічаць,** -аю, -аеш, -ае.

**ДВУХ...** *гл.* дву...

**ДВУХАБЛІ́ЧНЫ,** -ая, -ае (кніжн.). Тое, што і двудушны. ‖ *наз.* **двухаблічнасць,** -і, *ж.*

**ДВУХАДЗІ́НЫ,** -ая, -ае (кніжн.). Які складаецца з дзвюх частак, двух элементаў і ўтварае адзінства.

**ДВУХБО́РТНЫ,** -ая, -ае. Пра верхняе адзенне: з двума бартамі і двума радамі гузікаў. *Д. касцюм.*

**ДВУХВЯРСТО́ВЫ,** -ая, -ае. Працягласцю ў дзве вярсты. *Двухвярстовая адлегласць.*

**ДВУХГАДЗІ́ННЫ,** -ая, -ае. **1.** Які працягваецца дзве гадзіны. *Д. даклад.* **2.** Прызначаны на дзве гадзіны (пра цягнік, параход і пад.; разм.). *Д. параход.*

**ДВУХГАДО́ВЫ,** -ая, -ае. **1.** *гл.* двухгоддзе. **2.** Які мінуў, пражыў два гады. *Д. тэрмін. Двухгадовае дзіця.*

**ДВУХГАЛО́ВЫ,** -ая, -ае. З дзвюма галавамі. *Д. змей.* ○ **Двухгаловы арол** — геральдычны відарыс арла з дзвюма галавамі на дзяржаўным гербе Расіі.

**ДВУХГО́ДДЗЕ,** -я, *н.* **1.** Тэрмін у два гады. *Мінулае д.* **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, якая адбылася два гады назад. *Споўнілася д. са дня прыняцця закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь.*

**ДВУХДЗЁННЫ,** -ая, -ае. **1.** Працягласцю ў два дні. *Д. турысцкі паход.* **2.** Разлічаны, прызначаны на два дні. *Д. запас харчоў.*

**ДВУХДО́ЛЬНЫ,** -ая, -ае (спец.). Які складаецца з дзвюх долей. *Двухдольныя расліны* (з зародкам з дзвюх семядолей). *Сямейства двухдольных* (наз.). *Д. памер верша* (харэй, ямб).

**ДВУХДО́МНЫ,** -ая, -ае (спец.). Такі, у якога мужчынскія і жаночыя кветкі знаходзяцца на розных асобінах (пра расліны). *Каноплі, шпінат — двухдомныя расліны. Сямейства двухдомных* (наз.).

**ДВУХЖЫ́ЛЬНЫ,** -ая, -ае. **1.** Які ўяўляе сабой дзве скручаныя жылкі (спец.). *Д. провад.* **2.** Вынослівы, дужы, моцны (разм.). *Наша пакаленне двухжыльнае, яно ўсё перамагло, усё адолела.*

**ДВУХЗМЕ́ННЫ,** -ая, -ае. **1.** Які адбываецца, выконваецца ў дзве змены; працягласцю ў дзве змены. *Двухзменная работа. Д. рабочы дзень.*

**ДВУХЗНА́ЧНЫ,** -ая, -ае. **1.** Які складаецца з двух знакаў. *Д. лік.* **2.** Які мае два значэнні. *Двухзначнае слова. Д. выраз.*

**ДВУХКІЛАМЕТРО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Працягласцю ў два кіламетры. *Двухкіламетровую зону лесу займалі партызаны.* **2.** Маштабам два кіламетры ў сантыметры. *Двухкіламетровая карта.*

**ДВУХКО́ЛЕРНЫ**, -ая, -ае. Які мае ў сваёй афарбоўцы два колеры або складаецца з дзвюх частак рознага колеру. *Двухколерная тканіна. Д. сцяг.*

**ДВУХКО́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Павозка на двух колах. *Санітарныя двухколкі адвозілі раненых.* ‖ *прым.* **двухко́лы**, -ая, -ае.

**ДВУХКРА́ТНЫ**, -ая, -ае. Двухразовы; паўлічаны ў два разы. *Д. напамін. У двухкратным размеры. Д. чэмпіён.*

**ДВУХКРЫ́ЛЫЯ**, -ых, *адз.* -ае, -ага, *н.* (спец.). Атрад насякомых, які мае адну (пярэднюю) пару крылаў (напр., мухі, камары і пад.).

**ДВУХЛІТРО́ВЫ**, -ая, -ае. Ёмістасцю ў два літры. *Д. збан.*

**ДВУХМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Які мае два вымярэнні. ‖ *наз.* **двухме́рнасць**, -і, *ж.*

**ДВУХМЕ́СНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для дваіх. *Двухмеснае купэ. Д. нумар* (у гасцініцы). *Д. веласіпед.*

**ДВУХМЕТРО́ВЫ**, -ая, -ае. Мерай у два метры. *Двухметровая вышыня.*

**ДВУХМО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які карыстаецца дзвюма мовамі ў роўнай меры. *Двухмоўнае насельніцтва.* **2.** Падрыхтаваны і выдадзены на дзвюх мовах. *Д. слоўнік.* ‖ *наз.* **двухмо́ўе**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ДВУХПАВЯРХО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Вышынёй у два паверхі. *Д. дом.* **2.** *перан.* Пра вымаўляемае, напісанае: вельмі складаны, грувасткі. *Двухпавярховая фраза.*

**ДВУХПАКАЁВЫ**, -ая, -ае. З двух пакояў. *Двухпакаёвая кватэра.*

**ДВУХПАЛА́ТНЫ**, -ая, -ае. Пра структуру вышэйшага органа дзяржаўнай улады: які мае дзве палаты. *Д. парламент.*

**ДВУХПА́ЛУБНЫ**, -ая, -ае. Пра карабель, самалёт: які мае дзве палубы. *Д. параход. Д. аэробус.*

**ДВУХПА́ЛЬЦЫ**, -ая, -ае (спец.). Які мае два пальцы (у 1 знач.) на руцэ або назе (пра жывёл на лапе).

**ДВУХПО́ЛЛЕ**, -я, *н.* Стары спосаб апрацоўкі зямлі, пры якім кожны год палавіна зямлі заставалася пад парам. ‖ *прым.* **двухпо́льны**, -ая, -ае.

**ДВУХПО́ЛЫ**, -ая, -ае (спец.). **1.** Пра арганізм чалавека, жывёлы: які мае мужчынскія і жаночыя палавыя органы. **2.** Які мае тычынкі і песцікі ў адной кветцы. *Двухполыя кветкі.*

**ДВУХРАДКО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Страфа з двух радкоў.

**ДВУХРАЗО́ВЫ**, -ая, -ае. Які праводзіцца два разы ў які-н. прамежак часу. *Двухразовае кармленне.*

**ДВУХРУ́ЧНЫ**, -ая, -ае (спец.). З дзвюма ручкамі. *Двухручная піла.*

**ДВУХСКЛАДО́ВЫ**, -ая, -ае. Які мае два склады. *Двухскладовае слова.* ‖ *наз.* **двухсклад́овасць**, -і, *ж.*

**ДВУХСОТГО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Тэрмін у дзвесце год. **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, якая адбылася дзвесце год назад. *Д. заснавання горада.* ‖ *прым.* **двухсоттадо́вы**, -ая, -ае.

**ДВУХСО́ТЫ** *гл.* дзвесце.

**ДВУХСПА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Разлічаны для спання ўдваіх. *Д. ложак.*

**ДВУХСТВО́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Паляўнічая стрэльба з двума стваламі; дубальтоўка.

**ДВУХСТВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае два ствалы, распаўсюджваецца на два ствалы. *Двухствольнае ружжо. Двухствольнае свідраванне.*

**ДВУХСТВО́РКАВЫ**, -ая, -ае. З дзвюма створкамі. *Двухстворкавыя дзверы. Двухстворкавая ракавіна малюска.*

**ДВУХСХІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае два схілы. *Д. дах.*

**ДВУХСЭ́НСАВЫ**, -ая, -ае. З дваякім сэнсам; які можна дваяка разумець. *Д. выраз. Двухсэнсавае становішча.* ‖ *наз.* **двухсэ́нсавасць**, -і, *ж.*

**ДВУХТА́КТАВЫ**, -ая, -ае (спец.). **1.** Працягласцю ў два такты. *Двухтактавая паўза.* **2.** Пра рухавік унутранага згарання, у якім рабочы працэс адбываецца за два хады поршня. *Д. матор.*

**ДВУХТО́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Двухтомнае выданне твораў. *Д. Максіма Багдановіча.*

**ДВУХТО́МНЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з двух тамоў. *Д. збор твораў.*

**ДВУХТЫДНЁВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які працягваецца два тыдні. *Д. адпачынак.* **2.** Узростам у два тыдні. *Двухтыднёвыя парасяты.*

**ДВУХТЫ́СЯЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Ліч. парадк. да дзве тысячы. **2.** Які налічвае дзве тысячы. *Д. атрад.* **3.** Вартасцю ў дзве тысячы рублёў (разм.). *Д. дыван.*

**ДВУХЧЛЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Алгебраічны выраз, які ўяўляе сабой суму або рознасць двух адначленаў, біном. ‖ *прым.* **двухчле́нны**, -ая, -ае.

**ДЖАЗ**, -а, *м.* Аркестр, які складаецца пераважна з духавых, ударных шумавых інструментаў і спевакоў-салістаў, а таксама прызначаная для такога аркестра музыка, якая спалучае ў сабе рысы еўрапейскай і афрыканскай традыцый. *Іграе д. Іграць у стылі джаза. Аматары джаза.* ‖ *прым.* **джа́завы**, -ая, -ае. *Джазавая музыка.*

**ДЖАЗ-...** Першая частка складаных слоў са знач. які мае адносіны да джаза, напр. *джазансамбль, джаз-аркестр, джаз-музыка.*

**ДЖАЗІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які грае ў джазе. ‖ *ж.* **джазі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ДЖА́ЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Колючая частка органа абароны і нападу ў пчол, вос, шэршняў і інш., а таксама раздвоены язык у ядавітых змей. *Д. пчалы. Змяінае д.* **2.** Вастрыё колючага ці рэжучага інструмента, прадмета. *Д. касы.* **3.** *перан.* Пра што-н., вострае, з'едлівае. *Д. сатыры.* ‖ *памянш.* **джа́льца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* ‖ *прым.* **джа́льны**, -ая, -ае.

**ДЖА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак., каго-што.* **1.** Пра насякомых, змей: раніць джалам, кусаць. *Пчолы джаляць.* **2.** *перан.* Раніць крыўднымі словамі, колкімі заўвагамі. *Колкія заўвагі джалілі яго, выводзілі з раўнавагі.* ‖ *зак.* **ўджа́ліць**, -лю, -ліш, -ліць; -лены. *Уджаліла змяя.*

**ДЖГАЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* (разм.). **1.** *каго (што).* Калоць, раніць джалам (пра насякомых, змей). *Авадні і сляпні джгалі няўмольна.* **2.** Хутка ісці або бегчы. *Лявон джгаў без аглядкі.* ‖ *аднакр.* **джгану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ *і* **джгну́ць**, -ну, -неш, -не; -нём, -няце́, -нуць; -ні. ‖ *наз.* **джга́нне**, -я, *н.*

**ДЖОЎЛЬ**, -я, *м.* Адзінка энергіі, работы і колькасці цеплыні.

**ДЖУ́НГЛІ**, -яў. Густы непраходны лясны зараснік у балоцістых мясцовасцях трапічных краін. *Закон джунгляў* (перан.: аб адкрытым самавольстве і насіллі). ‖ *прым.* **джу́нглевы**, -ая, -ае.

**ДЖУТ**, -у, *М* джу́це, *м.* Травяністая расліна, што разводзіцца пераважна ў Індыі, з валакна якой выраблякоць грубую тканіну, вяроўкі, канаты. ‖ *прым.* **джу́тавы**, -ая, -ае.

**ДЖЫГІ́Т**, -а, *М* -гі́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Умелы наезнік на асядланым кані (спачатку ў каўказскіх горцаў). ‖ *прым.* **джыгі́цкі**, -ая, -ае.

**ДЖЫГІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак.* Займацца джыгітоўкай.

**ДЖЫГІТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* Разнастайныя складаныя практыкаванні на асядланым кані, які шпарка бяжыць (першапачат. у каўказскіх горцаў, казакаў).

**ДЖЫН**[1], джыну, *м.* Англійская гарэлка, прыпраўленая ядлаўцовымі ягадамі. *Адведалі па чарцы джыну.*

**ДЖЫН**[2], -а, *м.* У арабскай і персідскай міфалогіі: назва злога духу. ◊ **Выпусціць джына з бутэлькі** (кніжн.) — даць волю злым сілам.

**ДЖЫ́НСАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* джынсы. **2.** Пра матэрыю: такая, з якой шыюць джынсы.

**ДЖЫ́НСЫ**, -аў. Штаны (часцей сінія) з жорсткай бавоўнянай тканіны, якія прашыты каляровымі ніткамі і якія шчыльна аблягаюць цела. *Мужчынскія, жаночыя д.* ‖ *прым.* **джы́нсавы**, -ая, -ае.

**ДЖЫП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Амерыканскі легкавы аўтамабіль павышанай праходнасці.

**ДЖЫУ-ДЖЫЦУ**, *нескл., н.* Японская барацьба вольнага стылю і сістэма прыёмаў самаабароны без зброі.

**ДЖЭЙРА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Від газелі[1]. ‖ *прым.* **джэйра́навы**, -ая, -ае.

**ДЖЭМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Варэнне з фруктаў або ягад у выглядзе густога жэле. ‖ *прым.* **джэ́мавы**, -ая, -ае.

**ДЖЭ́МПЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вязаная шарсцяная або шаўковая кофта без каўняра, якая надзяваецца цераз галаву. ‖ *прым.* **джэ́мперны**, -ая, -ае.

**ДЖЭНТЛЬМЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які адрозніваецца сваёй выхаванасцю ў паводзінах, прыстойнасцю і ветлівасцю ў адносінах з другімі, высакароднасцю маралі, далікатнасцю і зграбнасцю адзення. ‖ *прым.* **джэнтльме́нскі**, -ая, -ае. *Джэнтльменскае пагадненне* (вусная дамоўленасць бакоў).

**ДЖЭ́РСІ**. **1.** *нескл., н.* Моцны трыкатажны матэрыял, а таксама адзенне з такога матэрыялу. *Баваўнянае, шарсцяное, шаўковае д.* **2.** *нязм.* Пра адзенне з такога матэрыялу. *Паліто д.*

**ДЗВЕ** *гл.* два.

**ДЗВЕ́РЦЫ**, -аў. **1.** *гл.* дзверы. **2.** Створка, створкі, якімі закрываюць якую-н. адтуліну. *Пячныя д.*

**ДЗВЕ́РЫ**, дзвярэ́й, дзвяра́м, дзвяра́мі *і* дзвярмі́. Праём у сцяне для ўваходу ў памяшканне, а таксама створ, якім закрываюць гэты праём. *Навесіць д. Дубовыя д. Зачыніць д. на ключ.* ○ **Царскія дзверы** — у праваслаўнай царкве: галоўны ўваход у алтар. ◊ **Жыць дзверы ў дзверы** (разм.) — адзін насупраць другога. **Дзень адчыненых дзвярэй** — дзень вольнага наведвання навучальных устаноў з мэтай азнаямлення з імі перад паступленнем на вучобу. **Пры зачыненых дзвярах** — без допуску пабочных асоб. **Стукацца ў дзверы** — звяртацца да каго-н. з просьбай аб чым-н. ‖ *памянш.* **дзве́рцы**, -аў. ‖ *прым.* **дзвярны́**, -а́я, -о́е. *Д. праём. Дзвярная клямка.*

**ДЗВЕ́СЦЕ**, двухсо́т, двумста́м, двумаста́мі, (аб) двухста́х, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 200. ‖ *парадк.* **двухсо́ты**, -ая, -ае.

**ДЗВЫ́НКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Утвараць звінючыя гукі (пра шкло, метал, насякомых і пад.). *Недзе дзвынкала шкло. Над вухам дзвынкалі камары.* ‖ *аднакр.* **дзвы́нкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **дзвы́нканне**, -я, *н.*

# ДЗЕ—ДЗЕ

**ДЗЕ. 1.** *займ., прысл.* і *злучнікавае слова.* У якім месцы. *Дзе вы працуеце? Горад, дзе я жыў.* **2.** *займ. прысл.* Тое, што і дзе-небудзь. *Пашукай лепш, можа дзе згубіў. Ці няма дзе вольнага месца?* **3.** *часц.* Ужыв. для выражэння адносін, сумнення (разм.). *Адпачыў? — Дзе адпачыў! Столькі работы.* ◊ **Дзе наша не прападала** (разм.) — выраз, які ўжываюць, прыступаючы да дзеяння з рызыкай.

**ДЗЕ́ВЕР,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мужаў брат. *Мой д. — справядлівы чалавек.*

**ДЗЕВЯНО́СТА,** -а, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 90. *Яму за д.* (больш як дзевяноста гадоў). ‖ *парадк.* **дзевяно́сты,** -ая, -ае.

**ДЗЕВЯ́ТКА,** -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Лічба 9. **2.** Назва чаго-н., што змяшчае дзевяць адзінак (ігральнай карты з дзевяццю ачкамі, групы з дзевяці чалавек або аднародных прадметаў і пад.). **3.** Назва чаго-н., абазначанага лічбай 9. *Прыехаў на дзевятцы* (на трамваі, аўтобусе, тралейбусе пад № 9). *Мяч трапіў у дзевятку* (верхні вугал футбольных варот).

**ДЗЕВЯ́ТКА,** -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Лічба 9. **2.** Назва чаго-н., што змяшчае дзевяць адзінак (ігральнай карты з дзевяццю ачкамі, групы з дзевяці чалавек або аднародных прадметаў і пад.). **3.** Назва чаго-н., абазначанага лічбай 9. *Прыехаў на дзевятцы* (на трамваі, аўтобусе, тралейбусе пад № 9). *Мяч трапіў у дзевятку* (верхні вугал футбольных варот).

**ДЗЕВЯТНА́ЦЦАЦЬ,** -і, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 19. ‖ *парадк.* **дзевятна́ццаты,** -ая, -ае.

**ДЗЕВЯ́ТЫ,** -ая, -ае. **1.** *гл.* дзевяць. **2. дзевя́тая,** -ай. Якая атрымліваецца пры дзяленні на дзевяць. *Дзевятая частка. Адна дзевятая* (наз.).

**ДЗЕВЯ́ЦЕРА,** дзевяцяры́х, дзевяцяры́м, дзевяцяры́мі, *ліч. зб.* **1.** З назоўнікамі мужчынскага і агульнага роду, што абазначаюць асоб, з разам узятымі асабовымі назоўнікамі мужчынскага і жаночага роду, з назоўнікамі мн. л., якія абазначаюць жывых істот абодвух полаў, з ас. займ. мн. л. і без залежнага слова: колькасць дзевяць. *Д. салдатаў. Засталося д. сірот. Нас было д.: пяць мужчын і чатыры жанчыны. Д. свіней. Сустрэць дзевяцярых. Яда на дзевяцярых.* **2.** З назоўнікамі, якія абазначаюць маладых істот: колькасць дзевяць. *Д. дзяцей. Д. парасят.* **3.** звычайна *Н* і *В.* З множналікавымі назоўнікамі: дзевяць прадметаў. *Д. калёс. Д. сутак.* **4.** звычайна *Н* і *В.* З некаторымі назоўнікамі, якія абазначаюць прадметы і існуюць або носяцца ў пары: дзевяць пар. *Д. туфель. Д. шкарпэтак.*

**ДЗЕВЯЦІ...** Першая частка складаных слоў, якая абазначае: 1) які мае дзевяць аднолькавых прымет, прадметаў і пад., напр. *дзевяцігадовы, дзевяціпольны;* 2) які складаецца з дзевяці частак, раздзелаў або мерай у дзевяць якіх-н. адзінак, напр. *дзевяцібальны, дзевяціградусны, дзевяцігадзінны* (цягнік).

**ДЗЕВЯЦІКЛА́СНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вучань дзевятага класа. ‖ *ж.* **дзевяцікла́сніца,** -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДЗЕВЯЦІКРА́ТНЫ,** -ая, -ае. Які паўтараецца дзевяць разоў, павялічаны ў дзевяць разоў. *У дзевяцікратным памеры.*

**ДЗЕ́ВЯЦЬ,** -і, *Т* -вяццю́, *ліч. кольк.* Лік, лічба і колькасць 9. ‖ *парадк.* **дзевя́ты,** -ая, -ае.

**ДЗЕВЯЦЬСО́Т,** дзевяцісо́т, дзевяцістам, дзевяццюстамі, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 900. ‖ *парадк.* **дзевяцісо́ты,** -ая, -ае.

**ДЗЕД**[1], -а, *М* дзе́дзе, *мн.* дзяды́, дзядо́ў, *м.* **1.** Бацька бацькі або маці. **2.** Наогул стары чалавек. *Сюды прыходзіў мудры дзед.* **3.** Муж (разм.). *Добра каша пры хлебе, добра баба пры дзедзе* (з нар.). ◊ **Дзед Мароз** — казачны стары з сівой барадой, які ўвасабляе мароз і навагоднiя свята. **Следам за дзедам** — па прыкладу старэйшых. ‖ *памянш.* **дзядо́к,** -дка́, *мн.* -дкі́, -дко́ў, *м.* (да 2 знач.; разм.). ‖ *ласк.* **дзяду́ля,** -і, *мн.* -і, -яў, *м.*, **дзяду́ня,** -і, *мн.* -і, -яў, *м. і* **дзяду́ся,** -і, *мн.* -і, -яў, *м.* ‖ *прым.* **дзеда́ўскі,** -ая, -ае *і* **дзядо́ўскі,** -ая, -ае. *Дзедаўская спадчына. Дзядоўская паходка.*

**ДЗЕД**[2], -а, *М* дзе́дзе, *мн.* дзяды́, дзядо́ў, *м.* (уст.). Прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай лучыны ці смалістых корчыкаў.

**ДЗЕ́ДАЎСКІ,** -ая, -ае. **1.** *гл.* дзед[1]. **2.** *перан.* Вельмі стары або ўстарэлы. *Дзедаўская тэхніка. Д. спосаб апрацоўкі зямлі.*

**ДЗЕ́ДАЎШЧЫНА,** -ы, *ж., зб.* (разм.). **1.** Спадчына пасля дзеда. **2.** У арміі: нераўнапраўныя і зневажальныя адносіны стараслужачых у адносінах да маладых салдатаў, навабранцаў (неадабр.).

**ДЗЕ́ДЗІЧ,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). **1.** Наследнік дзедаўскага двара, маёнтка. **2.** Уладар маёнтка, атрыманага ў спадчыну ад продкаў.

**ДЗЕЕПРЫМЕ́ТНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У граматыцы: форма дзеяслова, якая валодае побач з катэгорыямі дзеяслова (час, стан і трыванне) і катэгорыямі прыметніка (род, склон). *Д. цяперашняга часу. Д. прошлага часу.* ‖ *прым.* **дзеепрыме́тнікавы,** -ая, -ае.

**ДЗЕЕПРЫСЛО́ЎЕ,** -я, *мн.* -і, -яў, *н.* У граматыцы: нязменная форма дзеяслова, якая спалучае ў сабе адзнакі дзеяслова і прыслоўя. ‖ *прым.* **дзеепрысло́ўны,** -ая, -ае.

**ДЗЕ́ЖКА,** -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* Драўляная, крыху звужаная к верху пасудзіна з прамых клёпак для заквашвання цеста і інш. *Хапіў з дзежкі, аж не бачыць сцежкі* (з нар.). ‖ *памянш.* **дзе́жачка,** -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **дзе́жачны,** -ая, -ае *і* **дзе́жкавы,** -ая, -ае.

**ДЗЕ́ЙНАСЦЬ,** -і, *ж.* **1.** Заняткі, праца ў якой-н. галіне. *Гаспадарчая д. Педагагічная д. Навукова-даследчая д.* **2.** Работа, функцыяніраванне якіх-н. органаў арганізма, а таксама сіл прыроды. *Д. сэрца. Д. вулкана.*

**ДЗЕ́ЙНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У граматыцы: галоўны член двухсастаўнага сказа, які не залежыць ад іншых членаў сказа, адказвае на пытанні назоўнага склону (хто? што?) і служыць для абазначэння прадмета, які характарызуецца выказнікам. ‖ *прым.* **дзе́йнікавы,** -ая, -ае.

**ДЗЕ́ЙНІЧАЦЬ,** -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Рабіць што-н., займацца чым-н. *Д. рашуча.* **2.** *чым.* Кіраваць, валодаць чым-н. *Спартсмен удала дзейнічаў ракеткай. Пасля ранення нага не дзейнічае.* **3.** *на каго-што* і *без дап.* Рабіць уплыў, уздзеянне, выклікаць якую-н. рэакцыю ў адказ. *Лякарства на яго станоўча дзейнічае. Сонца згубна дзейнічае на жэньшэнь.* **4.** Быць спраўным (пра апараты, механізмы). *Механізм дзейнічае безадказна.* **5.** Мець сілу, абавязваць рабіць пэўным чынам. *Тут дзейнічаў даўні звычай.* ◊ **Дзейнічаць на нервы** *каму* (разм.) — раздражняць каго-н. ‖ *зак.* **падзе́йнічаць,** -аю, -аеш, -ае (да 3 знач.).

**ДЗЕ́ЙНЫ,** -ая, -ае. Актыўны, жвавы, энергічны. *Дзейная натура.*

**ДЗЕ́ЙСНЫ,** -ая, -ае. Здольны ўздзейнічаць, актыўны. *Д. сродак. Дзейсныя меры.* ‖ *наз.* **дзе́йснасць,** -і, *ж.*

**ДЗЕКАБРЫ́СТ,** -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). Удзельнік рускага дваранскага рэвалюцыйна-вызваленчага руху, які завяршыўся паўстаннем 14 снежня 1825 г. ‖ *прым.* **дзекабры́сцкі,** -ая, -ае.

**ДЗЕКАБРЫ́СТКА,** -і, *ДМ* -стцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Жонка дзекабрыста.

**ДЗЕ́КАННЕ,** -я, *н.* **1.** *гл.* дзекаць. **2.** Уласцівае беларускай мове чаргаванне цвёрдага зубнога *д* пры змякчэнні з мяккай афрыкатай *дз: горад — у горадзе, іду — ідзі.*

**ДЗЕ́КАЦЬ,** -аю, -аеш, -ае; *незак.* Вымаўляць афрыкату «дзь» на месцы мяккага «д». ‖ *наз.* **дзе́канне,** -я, *н.*

**ДЗЕЛАВІ́ТЫ,** -ая, -ае. Энергічны, умелы, прадпрымальны ў рабоце. *Д. малады інжынер.* ‖ *наз.* **дзелаві́тасць,** -і, *ж.*

**ДЗЕЛАВЫ́,** -а́я, -о́е. **1.** Які адносіцца да грамадскай, службовай дзейнасці. *Дзелавая размова. Дзелавыя сувязі. Дзелавое пісьмо.* **2.** Які ведае справу, умела кіруе і клапоціцца аб рабоце. *Дзелавыя людзі. Д. кіраўнік.* **3.** Прыдатны для апрацоўкі (спец.). *Д. лес. Дзелавая драўніна.*

**ДЗЕ́ЛІВА,** -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Лік або велічыня, якая падвяргаецца дзяленню.

**ДЗЕЛЬ,** -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Вынік дзялення аднаго ліку на другі. **2.** Частка, доля, выдзеленая каму-н. (разм.). *Ён узяў сваю д.*

**ДЗЕ́ЛЬНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Лік або велічыня, на якую дзеліцца дзеліва.

**ДЗЕ́ЛЯ,** *прыназ. з Р.* **1.** *каго-чаго.* Для каго-, чаго-н., у інтарэсах каго-, чаго-н. *Д. агульнай справы. Я зраблю гэта д. вас.* **2.** *чаго.* З мэтай, у мэтах чаго-н. *Д. адпачынку. Д. кавалка хлеба.*

**ДЗЕ-НЕ́БУДЗЬ,** *прысл.* У якім-небудзь, дакладна невядомым, месцы. *Дзе-небудзь сустрэнемся.*

**ДЗЕ-НІДЗЕ́,** *прысл.* Сям-там, у асобных месцах. *Дзе-нідзе можна сустрэць бабра.*

**ДЗЕНЬ,** дня, *мн.* дні, дзён, *м.* **1.** Частка сутак ад усходу да заходу сонца, ад раніцы да вечара. *Ясны д. Дасць бог д., дасць і спажытак* (прыказка). *І дзень і ноч* (увесь час). **2.** Тое, што і суткі. *Водпуск на 5 дзён.* **3.** Прамежак часу ў межах сутак, заняты чым-н. *Працоўны д. Светлавы д.* (частка сутак, на працягу якой свеціць Сонца). **4.** *чаго.* Лік месяца, дата, прысвечаная якой-н. падзеі. *Дзень Перамогі* (9 Мая — Свята Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.) *Д. нараджэння.* **5.** *мн.* Пара, перыяд. *Дні юнацтва.* ○ **Палярны дзень** — за Палярным кругам: частка года, калі сонца не заходзіць за гарызонт. **Посны дзень** — дзень, у які згодна з царкоўным звычаем нельга есці скаромнае. **Разгрузачны дзень** — дзень з аблегчанай дыетай, асабліва для асоб, схільных да паўнаты. **Санітарны дзень** — дзень, які прызначаецца для навядзення санітарыі. **Рабочы (працоўны) дзень** — пэўны перыяд часу, адведзены для работы, службы. ◊ **Добры дзень!** — прывітальны зварот днём пры сустрэчы са знаёмымі. **Гэтымі днямі; на гэтых днях** — некалькі дзён таму назад або праз некалькі наступных дзён. **Дзень у дзень; дзень пры дні** — штодзень, кожны дзень. **Лічаныя дні** — мала часу, нядоўга. **З дня на дзень** — у адзін з бліжэйшых дзён. *Чакаем іх з дня на дзень.* **Наводзіць цень на ясны дзень** — наўмысна ўносіць няяснасць у якую-н. справу; блытаць каго-н. **Учарашні дзень** — былое, мінулае. **Чуць дзень** — вельмі рана, на світанні. **Чорны дзень** — цяжкая, змрочная часіна. ‖ *памянш.-ласк.* **дзянёк,** -нька́, *мн.* -нькі́, -нько́ў, *м.* (да 1, 2, 3 знач.). ‖ *прым.* **дзённы,** -ая, -ае (да 1 знач.).

**ДЗЕРАВЯ́КА,** -і, *ДМ* -вя́цы, *мн.* -і, -вя́к, *ж.* (разм.). Кавалак дрэва. *На беразе ракі дагнівалі пачарнелыя дзеравякі.*

**ДЗЕРАВЯНЕ́ЦЬ,** -не́ю, -не́еш, -не́е; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Набываць цвёрдасць,

уласцівую дрэву. *Сцябло расце і дзеравянее.* **2.** Утрачваць адчувальнасць, дранцвець. *Ногі дзеравянеюць ад холаду.* ‖ *зак.* **адзеравянець,** -ею, -ееш, -ее, **задзеравянець,** -ею, -ееш, -ее *і* **здзеравянець,** -ею, ееш, -ее.

**ДЗЕРАВЯШКА,** -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). **1.** Кавалак дрэва, драўляны брусок. **2.** Штучная драўляная нага. *З вайны ў яго замест нагі д.* **3.** *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Скінуў дзеравяшкі пад лаўку.*

**ДЗЕРАЗА,** -ы, *ж.* Травяністая споравая расліна сямейства дзеразовых з паўзучым сцяблом. ‖ *прым.* **дзеразовы,** -ая, -ае. *Д. вянок. Клас дзеразовых* (наз.).

**ДЗЁРЦІ,** дзяру, дзярэш, дзярэ; дзяром, дзераце, дзяруць; дзёр, дзёрла; дзяры; дзёрты; *незак., каго-што.* Тое, што і драць.

**ДЗЁСЬЦІ,** *прысл.* У нейкім, дакладна не вызначаным месцы. *Д. я сустракаў гэтага чалавека. Ён служыць д. на поўначы.*

**ДЗЕСЯТАК,** -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Адзінка падліку, роўная дзесяці, а таксама дзесяць аднолькавых прадметаў. *Д. яек. Да яго звяртаюцца дзесяткі людзей.* **2.** Дзесяць год узросту. *Дзевяты д. пайшоў* (мінула восемдзесят гадоў). **3.** *мн.* Передапошняя лічба шматзначнага ліку. *Клас адзінак, дзесяткаў, соцень.* ◊ **Не з баязлівага дзесятка** *хто* (разм.) — пра смелага, рашучага чалавека.

**ДЗЕСЯТКА,** -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Лічба 10. *Трапіць у дзесятку* (дакладна ў цэнтр мішэні). **2.** Назва чаго-н., што змяшчае ў сабе дзесяць адзінак, напр. група з дзесяці чалавек, ігральная карта з дзесяццю ачкамі. **3.** Назва чаго-н., абазначанага лічбай 10 (разм.). *Паехаў на дзесятцы* (на трамваі, тралейбусе, аўтобусе пад № 10). **4.** Тое, што і дзесяцірублёўка (разм.). *Размяняць дзесятку.*

**ДЗЕСЯТКОВЫ,** -ая, -ае. Заснаваны на лічэнні дзесяткамі. *Дзесятковая сістэма мер і вагі.* ○ **Дзесятковыя дробы** — сістэма лічбавага адлюстравання дробных колькасцей пры дапамозе раскладання на дзесятыя, сотыя, тысячныя і г.д. часткі цэлага.

**ДЗЕСЯТНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба ніжэйшага тэхнічнага персаналу, якая кіруе групай рабочых на будаўніцтве, лясных распрацоўках і інш.

**ДЗЕСЯТЫ,** -ая, -ае. **1.** *гл.* дзесяць. **2.** **дзесятая,** -ай. Які атрымліваецца пры дзяленні на дзесяць. *Дзесятая частка. Адна дзесятая* (наз.).

**ДЗЕСЯЦЕРА,** дзесяцярых, дзесяцярым, дзесяцярымі, *ліч. зб.* **1.** З назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду, што абазначаюць асоб, з разам узятымі асабовымі назоўнікамі мужчынскага і жаночага роду, з назоўнікамі мн. л., якія абазначаюць жывых істот абодвух полаў, з ас. займ. мн. л. і без залежнага слова: колькасць дзесяць. *Д. сыноў. Д. сірот. Іх там працавала д.: шэсць мужчын і чатыры жанчыны. Д. свіней. Нас было д. Усё дзелім на дзесяцярых.* **2.** З назоўнікамі, якія абазначаюць маладых істот: колькасць дзесяць. *Д. дзяцей. Д. цялят.* **3.** звычайна *Н* і *В.* З множналікавымі назоўнікамі: дзесяць прадметаў. *Д. нажніц. Д. саней. Д. сутак.* **4.** звычайна *Н* і *В.* З некаторымі назоўнікамі, якія абазначаюць прадметы і існуюць або носяцца ў пары: дзесяць пар. *Д. ботаў. Мароз такі, што хоць д. рукавіц надзявай.* ◊ **За дзесяцярых** — так, як могуць толькі дзесяцера. *Працаваць за дзесяцярых.*

**ДЗЕСЯЦІ...** Першая частка складаных слоў са знач.: 1) што змяшчае дзесяць якіх-н. адзінак, напр. *дзесяцірублёвы, дзесяцітонны, дзесяцістволъны;* 2) які адносіцца да дзесяці, да дзесятага, напр. *дзесяцігадзінны* (цягнік), *дзесяцікласнік.*

**ДЗЕСЯЦІБОРАЦ,** -рца, *мн.* -рцы, -рцаў, *м.* Спартсмен, удзельнік дзесяціборства.

**ДЗЕСЯЦІБОРСТВА,** -а, *н.* Спартыўнае спаборніцтва па дзесяці відах лёгкай атлетыкі.

**ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ,** -я, *н.* **1.** Тэрмін у дзесяць год. **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, што адбылася дзесяць год таму назад. *Д. інстытута* (дзесяць год са дня заснавання). ‖ *прым.* **дзесяцігадовы,** -ая, -ае.

**ДЗЕСЯЦІГОДКА,** -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* (разм.). Поўная сярэдняя школа з дзесяццю гадамі навучання. *Скончыць дзесяцігодку.*

**ДЗЕСЯЦІДЗЁНКА,** -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Прамежак часу ў дзесяць дзён, дэкада. ‖ *прым.* **дзесяцідзённы,** -ая, -ае.

**ДЗЕСЯЦІКАПЕЕЧНЫ,** -ая, -ае. **1.** Вартасцю ў дзесяць капеек. *Дзесяцікапеечная манета.* **2.** Коштам у дзесяць капеек. *Д. канверт.*

**ДЗЕСЯЦІКЛАСНІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вучань дзесятага класа. ‖ *ж.* **дзесяцікласніца,** -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДЗЕСЯЦІКРАТНЫ,** -ая, -ае. Які паўтараецца дзесяць разоў. *У дзесяцікратным памеры. Д. чэмпіён.*

**ДЗЕСЯЦІНА,** -ы, *мн.* -ы, -цін, *ж.* (гіст.). Старая руская мера зямельнай плошчы, роўная 2400 кв. сажням або 1,09 гектара. ‖ *прым.* **дзесяцінны,** -ая, -ае. *Д. надзел зямлі.*

**ДЗЕСЯЦІРУБЛЁЎКА,** -і, *ДМ* -лёўцы, *мн.* -і, -лёвак, *ж.* (разм.). Грашовы знак вартасцю ў дзесяць рублёў. ‖ *прым.* **дзесяцірублёвы,** -ая, -ае.

**ДЗЕСЯЦКІ,** -ага, *мн.* -ія, -іх, *м.* (уст.). У дарэвалюцыйнай Расіі: выбарная службовая асоба з сялян (звычайна ад кожных дзесяці двароў), памочнік соцкага.

**ДЗЕСЯЦЬ,** -і, -ццю, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 10. *Д. чалавек. Д. гадоў.* ◊ **Ні ў пяць ні ў дзесяць** (разм. неадабр.) — ні туды ні сюды; ні так ні гэтак. ‖ *парадк.* **дзесяты,** -ая, -ае. *Дзесятыя гады* (з 10 па 20 год якога-н. стагоддзя). *Гэта справа дзесятая* (перан.: няважная, другарадная; разм.). ◊ **Пятае цераз дзесятае** (разм. жарт.) — непаслядоўна, пераскокваючы з аднаго на другое (расказваць, пераказваць).

**ДЗЕТАЗАБОЙСТВА,** -а, *н.* Забойства дзіцяці.

**ДЗЕТАЗАБОЙЦА,** -ы, *мн.* -ы, -аў, *м.* і *ж.* Забойца дзіцяці.

**ДЗЕТАРАДЖЭННЕ,** -я, *н.* Стварэнне патомства, нараджэнне дзяцей.

**ДЗЕТВАРА,** -ы, *ж., зб.* (разм.). Малыя дзеці. *Двор поўніўся галасамі дзетвары.*

**ДЗЕТДОМ,** -а, *мн.* -дамы, -дамоў, *м.* Скарачэнне: дзіцячы дом. ‖ *прым.* **дзетдомаўскі,** -ая, -ае (разм.). *Дзетдомаўскае дзіця.*

**ДЗЕТДОМАВЕЦ,** -маўца, *мн.* -маўцы, -маўцаў, *м.* (разм.). Выхаванец дзіцячага дома. ‖ *ж.* **дзетдомаўка,** -і, *ДМ* -маўцы, *мн.* -і, -мавак.

**ДЗЕТКА,** -і, *мн.* -і, -так, *ж.* (разм.). Дзіця (звычайна ў звароце). *Купіў табе лялька, д.* ‖ *памянш.-ласк.* **дзетачка,** -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ДЗЕТСАДАЎСКІ,** -ая, -ае (разм.). Які мае адносіны да дзіцячага сада.

**ДЗЕЎКА,** -і, *ДМ* дзеўцы, *мн.* -і, дзевак, *ж.* (разм.). Паўналетняя незамужняя жанчына. *Дзеўкі спявалі купальскія песні.* ◊ **Заседзецца ў дзеўках** (разм.) — доўга не выходзіць замуж.

**ДЗЕЎЧАНЯ *і* ДЗЕЎЧАНЁ,** -няці, *мн.* -няты, -нят, *н.* (разм.). Маленькая дзяўчынка.

**ДЗЕЦІ,** дзяцей, дзецям, дзецьмі, аб дзецях. **1.** Мн. да дзіця. **2.** Маладое пакаленне, бліжэйшыя патомкі. *Бацькі і дзеці.* ◊ **Гушча дзяцей не разганяе** (прыказка; разм.) — густой стравай не спужаеш. ‖ *памянш.-ласк.* **дзеткі,** -так *і* **дзетачкі,** -чак. ‖ *прым.* **дзіцячы,** -ая, -ае. *Д. тэатр* (для дзяцей). *Д. дом* (выхаваўчая ўстанова для дзяцей, якія засталіся без бацькоўскай апекі).

**ДЗЕЦЦА,** дзенуся, дзенешся, дзенецца; дзенься; *зак.,* са словамі **«куды», «некуды»** (разм.). **1.** Знікнуць, прапасці. *Куды ён дзеўся? Нікуды ён не дзенецца.* **2.** Знайсці сабе месца, прытулак. *У незнаёмым горадзе не ведаеш, куды д. напач.*

**ДЗЕЦЬ,** дзену, дзенеш, дзене; дзень; *зак.* (разм.). **1.** Палажыць куды-н. так, што цяжка знайсці. *Куды ты дзеў ключ? Дзе ж я дзену гэтую кнігу?* **2.** Знайсці для каго-н. месца, прытулак. *Кацянят трэба некуды д.* ◊ **Не ведаць, куды вочы дзець** (разм.) — пра адчуванне сораму. **Дзець некуды (няма куды)** (разм.) — надта многа. **Не ведаць, куды рукі дзець** (разм.) — пра адчуванне разгубленасці. ‖ *незак.* **дзяваць,** -аю, -аеш, -ае.

**ДЗЕЮЧЫ,** -ая, -ае. Які дзейнічае, функцыяніруе. *Дзеючыя асобы ў п'есе. Д. вулкан.*

**ДЗЕЯ,** -і, *мн.* -і, дзей, *ж.* **1.** Дзейнасць, справа. *Там добрая д., дзе адзін арэ, а другі сее* (з нар.). **2.** Падзея, пра якую ідзе гаворка. *Д. адбываецца ў часы вайны.* **3.** Частка драматычнага твора або тэатральнай пастаноўкі. *Камедыя ў трох дзеях.*

**ДЗЕЯЗДОЛЬНЫ,** -ая, -ае. **1.** Здольны да дзейнасці. *Д. арганізм.* **2.** Які мае права на ўчыненне дзеянняў юрыдычнага характару і які нясе адказнасць за свае ўчынкі. *Д. грамадзянін.* ‖ *наз.* **дзеяздольнасць,** -і, *ж.*

**ДЗЕЯННЕ,** -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Дзейнасць. *Машына ў дзеянні. План дзеяння. Баявыя дзеянні.* **2.** звычайна *мн.* Учынкі, паводзіны. *Супрацьзаконныя дзеянні. Самавольныя дзеянні.* **3.** Падзеі, пра якія ідзе гаворка. *Дзеянні адбываюцца ў 15 стагоддзі.* **4.** Асноўны від матэматычнага вылічэння. *Чатыры дзеянні арыфметыкі.* ○ **Каэфіцыент карыснага дзеяння** — адносіны колькасці карыснай работы, выкананай якім-н. механізмам, да колькасці паглынутай ім энергіі.

**ДЗЕЯСЛОЎ,** -лова, *мн.* -ловы, -ловаў, *м.* У граматыцы: часціна мовы, што абазначае дзеянне або стан прадмета і змяняецца ў часе, асобах і ліках (у цяперашнім часе) і родах (у прошлым часе). *Аднакратны д. Дапаможны д. Неазначальная форма дзеяслова. Безасабовыя дзеясловы. Рознаспрагальны д.* ‖ *прым.* **дзеяслоўны,** -ая, -ае.

**ДЗЕЯЦЦА,** 1 і 2 ас. не ўжыв., дзеецца; *незак.* (разм.). Рабіцца, адбывацца. *Сённяшні дзень — гэта водгулле ўсяго, што дзеецца на свеце.*

**ДЗЕЯЧ,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які праявіў сябе ў якой-н. грамадскай дзейнасці. *Дзяржаўны д. Дзеячы культуры. Заслужаны д. навукі* (ганаровае званне). ‖ *ж.* **дзеячка,** -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ДЗЁГАЦЬ,** -гцю, *м.* Цёмны смалісты вадкі прадукт, які атрымліваецца шляхам сухой перагонкі дрэва, торфу або каменнага вугалю. *Змазаць боты дзёгцем.* ◊ **Лыжка дзёгцю ў бочцы мёду** — пра што-н. малое, здольнае атруціць, сапсаваць вялікае. ‖ *прым.* **дзягцярны,** -ая, -ае *і* **дзёгцевы,** -ая, -ае.

**ДЗЁННІК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* дзень. **2.** Запісы аб штодзённых справах, бягучых падзеях, у якіх удзельнічаў ці быў іх сведкам сам аўтар. *Д. экспедыцыі.* **3.** Кніга або сшытак з такімі запісамі, а таксама вучнёўскі сшытак для запісу зададзеных урокаў і адзнак аб

паспяховасці і паводзінах вучняў. ‖ *прым.* **дзённікавы,** -ая, -ае.

**ДЗЁННЫ,** -ая, -ае. **1.** *гл.* дзень. **2.** Які вырабляецца на працягу аднаго дня, які атрымліваецца за адзін дзень. *Дзённая выпрацоўка. Дзённая зарплата.* **3.** Пра навучальную ўстанову, якая вядзе вочнае навучанне з заняткамі ўдзень. *Дзённае аддзяленне інстытута.*

**ДЗЁРАН,** -рну, *м.* Густа зарослы травой, пераплецены карэннем раслін верхні слой глебы, а таксама выразаныя пласты з гэтага слоя, якімі ўмацоўваюць адхоны, абкладаюць клумбы і інш. *Дбайнай садоўніцкай рукой абкладзены зялёным дзёрнам клумбы.* ‖ *прым.* **дзярновы,** -ая, -ае.

**ДЗЁРЗКІ,** -ая, -ае. Непачцівы, грубы, нахабна-задзірлівы. *Д. адказ. Дзёрзка* (прысл.) *паводзіць сябе.* ‖ *наз.* **дзёрзкасць,** -і, *ж.*

**ДЗЁРТЫ,** -ая, -ае. Здробнены на тарцы (пра бульбу). *Аладкі з дзёртай бульбы.*

**ДЗЁРУ,** *у знач. вык.* (разм.). Тое, што і драла, наўцёкі. *Яму што, схапіў ды д.* ◊ **Даць (задаць) дзёру** (разм.) — пабегчы наўцёкі.

**ДЗІВА,** -а, *н.* (разм.). Тое, што выклікае здзіўленне, цуд. *Што за д.? Вось гэта дык д.!* ◊ **Дзіва дзіўнае** (разм.) — вялікае дзіва. **Дзіву давацца** (разм.) — моцна здзіўляцца. **На дзіва** (разм.) — надта добра (удацца, выйсці, атрымацца).

**ДЗІВА́К,** -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Чалавек з незвычайнымі схільнасцямі, звычкамі, поглядамі; арыгінал. *Вунь чаго натварыў гэты д.* ‖ *ж.* **дзівачка,** -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ДЗІВАКАВА́ТЫ,** -ая, -ае (разм.). Дзівацкі, з дзівацтвамі (пра чалавека). *Д. дзед.* ‖ *наз.* **дзівакаватасць,** -і, *ж.*

**ДЗІВАСІ́Л,** -у, *м.* Травяністая шматгадовая расліна сямейства складанакветных з вялікім прадаўгаватым лісцем і жоўтымі кветкамі; корань дзівасілу выкарыстоўваецца ў медыцыне. ‖ *прым.* **дзівасілавы,** -ая, -ае.

**ДЗІВА́ЦКІ,** -ая, -ае. Уласцівы дзіваку. *Д. ўчынак.* ‖ *наз.* **дзівацтва,** -а, *н.*

**ДЗІВІ́ЦЦА,** дзіўлю́ся, дзі́вішся, дзі́віцца; *незак.* **1.** *з каго-чаго.* Прыходзіць у здзіўленне. *Лесаруб дзівіўся з сына, як той карчуе пні. Вераб'і і тыя дзівяцца з цябе.* **2.** *кім-чым.* Захапляцца. *Ён дзівіўся чысцінёй вуліц і парадкам.* **3.** *каму-чаму.* Зайздросна здзіўляцца. *Дзіўлюся вашай настойлівасці і ўмельству.* **4.** *на каго-што.* Любавацца, углядаючыся. *Кожную ночку на зорку дзіўлюся.*

**ДЗІВІ́ЦЬ,** дзіўлю́, дзі́віш, дзі́віць; *незак., каго-што.* Выклікаць здзіўленне, рабіць моцнае ўражанне. *Хірурга дзівіла цярплівасць раненага. Яна прыгажосцю дзівіла.*

**ДЗІВО́СНЫ,** -ая, -ае. **1.** Незвычайны, казачна-дзіўны. *На вокнах дзівосныя ўзоры пакінуў мароз.* **2.** Цудоўны, непараўнальны па характару. *Дрэвы стаялі ў сваім дзівосным жоўта-барвовым убранні. Дзівосна* (прысл.) *гучала жалейка.* **3.** Вельмі добры, выдатнай якасці. *Ад дзівоснай стрэльбы вачэй не адарваць.* ‖ *наз.* **дзівоснасць,** -і, *ж.*

**ДЗІ́ДА,** -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, дзід, *ж.* (уст.). **1.** Старадаўняя колючая зброя ў выглядзе доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам; піка. **2.** *перан.* Пра што-н. высокае, вастраверхае. *Далёка за полем узвышалася ў неба чорная дзіда касцёла.*

**ДЗІК,** -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Дзікі кабан; вепр. *Увосень дзікі ласуюцца жалудамі.* ‖ *прым.* **дзічыны,** -ая, -ае.

**ДЗІКАБРА́З,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Жывёліна атрада грызуноў, спіна і бакі ў якой пакрыты доўгімі іголкамі. ‖ *прым.* **дзікабра́завы,** -ая, -ае. *Дзікабразавае шчацінне.*

**ДЗІКАВА́ТЫ,** -ая, -ае. Трохі дзікі. *Характар у старога быў пануры, д. Дзікавата* (прысл.) *паводзіць сябе.* ‖ *наз.* **дзікава́тасць,** -і, *ж.*

**ДЗІКАРО́СЛЫ,** -ая, -ае. Які расце ў дзікім стане (пра расліны). *Дзікарослыя лекавыя травы.*

**ДЗІ́КІ,** -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца на першабытнай стадыі развіцця (пра людзей), некультываваны (пра расліны), не прыручаны (пра жывёл). *Дзікія плямёны. Дзікая яблыня. Дзікая качка.* **2.** Незаселены, неабжыты. *Д. кут.* **3.** Неўтаймаваны, шалёны. *У душы яго кіпеў д. гнеў.* **4.** Люты, зверскі. *Дзікая расправа. Дзікае забойства.* **5.** Нелюдзімы, які дзічыцца, пазбягае людзей. **6.** Не звязаны ні з якімі арганізацыямі, які дзейнічае самастойна (разм.). *Дзікая арцель. Д. пляж. Адпачываць дзікім спосабам* (не па пуцёўцы). ◊ **Дзікае мяса** (разм.) — пабочная нарасць на ранах, якія доўга не зажываюць. ‖ *наз.* **дзі́касць,** -і, *ж.*

**ДЗІКЛІ́ВЫ,** -ая, -ае (разм.). **1.** Які дзічыцца, саромеецца людзей, асабліва чужых. *Дзіклівае дзіця.* **2.** Недаверлівы, палахлівы (пра жывёл). *Д. кот.* ‖ *наз.* **дзіклі́васць,** -і, *ж.*

**ДЗІКУ́Н,** -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Чалавек з племені, якое знаходзіцца на ступені першабытнай культуры; нецывілізаваны чалавек. **2.** Нелюдзімы, дзікаваты чалавек, які пазбягае людзей (разм.). ‖ *ж.* **дзіку́нка,** -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **дзіку́нскі,** -ая, -ае.

**ДЗІРА́,** -ы́, *мн.* дзі́ры *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) дзіры́, дзір, *ж.* **1.** Вялікая дзірка ў вопратцы або адтуліна ў чым-н. *Залатаць дзіры на локцях. Залажыць дзіры цэглай.* **2.** *перан.* Глухое, захалуснае месца (разм.). *Жыве ён у такой дзіры, што свет не бачыў.* ○ **Чорная дзіра** (спец.) — касмічны аб'ект, які не дае выпрамяненняў і валодае магутным полем прыцягнення.

**ДЗІРА́ВЫ,** -ая, -ае. Прадраны, з дзіркамі. *Дзіравая кішэня. Дзіравая лодка.* ◊ **Дзіравая барада** (разм. жарт.) — пра таго, хто абліваецца стравай у час яды. **Дзіравая галава** (жарт.) — пра чалавека з дрэннай памяццю. **Дзіравыя рукі** (разм.) — пра нязграбнага чалавека, у якога ўсё з рук валіцца.

**ДЗІРВА́Н,** -у́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Няворaная зямля, якая зарасла густой травой. *Клумбы абложаны дзірваном.* **2.** Тое, што і дзёран. *Плугамі ўзнімалі некранутыя дзірваны.* ‖ *прым.* **дзірва́нны,** -ая, -ае.

**ДЗІРВАНЕ́ЦЬ,** 1 і 2 ас. не ўжыв., -нée; *незак.* Зарастаць травой, пакрывацца дзёрнам, дзірваном. *Дзірванее пакінутая зямля.* ‖ *зак.* **задзірване́ць,** -нée.

**ДЗІРВАНІ́СТЫ,** -ая, -ае. Густа парослы каранямі травяністых раслін. *Дзірваністая зямля.* ‖ *наз.* **дзірвані́стасць,** -і, *ж.*

**ДЗІ́РКА,** -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Невялікая дзіра. *Зацыраваць дзіркі ў шкарпэтках. Пракруціць дзірку ў дошцы.* **2.** Пра глухі, далёкі населены пункт (разм.). **3.** *мн., перан.* Тое, што патрабуе выдаткаў. *У гаспадаркі многа дзірак.* ◊ **Патрэбна як у мосце дзірка** (разм. іран.) — пра што-н. непатрэбнае. **Дзірка на дзірцы** (разм.) — зусім падраны. **Дзірка ад абаранка** (разм.) — нічога, пустое месца. ‖ *памянш.* **дзі́рачка,** -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ДЗІРКАКО́Л,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Канцылярская прылада для прабівання круглых дзірак у паперы.

**ДЗІЎНЫ,** -ая, -ае. **1.** Які выклікае здзіўленне, нябачаны. *Малому прысніўся д. сон. Дзіўна* (прысл.) *паводзіць сябе.* **2.** Цудоўны, чароўны. *Чуецца дзіўная музыка. Дзіўная купальская ноч.* ◊ **Дзіва дзіўнае** — вялікае дзіва. **Дзіўная рэч** — прыгожая (каштоўная). ‖ *наз.* **дзіўнасць,** -і, *ж.*

**ДЗІЦЯ́** *і* **ДЗІЦЁ,** дзіця́ці, *Т* дзіцём *і* дзіцем, *мн.* дзе́ці, дзяце́й, *н.* **1.** Зусім маленькі хлопчык або дзяўчынка. *Дзеці дашкольнага ўзросту. Д. не заплача — матка не здагадаецца* (з нар.). *Яшчэ зусім д.* **2.** *перан., чаго.* Пра чалавека, які набыў яркія рысы свайго асяроддзя і часу. *Д. свайго веку. Д. вуліцы. Д. прыроды* (чалавек, не кранугы гарадской культурай). ‖ *ласк.* **дзіця́тка,** -а, *н.* (да 1 знач.)

**ДЗІЦЯНЯ́** *і* **ДЗІЦЯНЁ,** -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Тое, што і дзіця (дзіцё).

**ДЗІЦЯ́ЧЫ,** -ая, -ае. **1.** *гл.* дзеці *і* дзяцінства. **2.** *перан.* Неўласцівы даросламу, нясталы. *Вырас, а розум д. Дзіцячыя забаўкі.*

**ДЗІ́ЧКА,** -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Дзікае, непрышчэпленае пладовае дрэва. **2.** Плод дзікага дрэва. *Дзічкі смачныя тады, калі ўлежацца.* ‖ *прым.* **дзі́чкавы,** -ая, -ае.

**ДЗІЧЫ́НА,** -ы, *ж.* **1.** *зб.* Дзікія звяры і птушкі як прадмет палявання. *Лясная дз.* **2.** Мяса дзікіх жывёл і птушак, якое ідзе ў ежу. *Насмажыць дзічыны.*

**ДЗІЧЫНЫ** *гл.* дзік.

**ДЗІЧЫ́ХА,** -і, *ДМ* -чы́се, *мн.* -і, -чы́х, *ж.* (разм.). Самка дзікага кабана, дзіка.

**ДЗІ́ЧЫЦЦА,** -чуся, -чышся, -чыцца; -чымся, -чыцеся, -чацца; *незак., каго-чаго* і *без дап.* (разм.). Саромецца, ухіляцца ад сустрэч і размоў, асабліва з чужымі ці мала знаёмымі людзьмі. *Д. людзей.*

**ДЗІЧЭ́ЦЬ,** -э́ю, -э́еш, -э́е; *незак.* **1.** Станавіцца дзікім, перараджацца. *Дрэвы дзічэюць. Без нагляду лес дзічэў.* **2.** *перан.* Станавіцца нелюдзімым, дзіклівым. *Д. на адзіноце.* ‖ *зак.* **здзічэ́ць,** -э́ю, -э́еш, -э́е *і* **здзічэ́ць,** -э́ю, -э́еш, -э́е. ‖ *наз.* **дзічэ́нне,** -я, *н.*

**ДЗОТ,** -а, *М* дзоце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Умацаваны абаронны агнявы пункт (скарачэнне па пачатковых літарах: ад рускага выразу — деревоземляная огневая точка). *Па дзотах праціўніка несціхана садзілі гарматы.*

**ДЗЫЛІ́НКАЦЬ,** -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Ствараць чым-н. металічным звінячы гук. *Д. ключамі.* ‖ *аднакр.* **дзылі́нкнуць,** -ну, -неш, -не; -ні (разм.). ‖ *наз.* **дзылі́нканне,** -я, *н.*

**ДЗЫН-ДЗЫ́Н,** *гукаперайм.* Пра гукі званочка, бомы і пад. *А званочак пад дугою дзын-дзын-дзын.*

**ДЗЬМУХАВЕ́Ц,** -хаўца́ *і* (зб.) -хаўцу́, *м.* (разм.). Травяністая расліна сямейства складанакветных з жоўтымі кветкамі і насеннем на пушыстых валасінках, дзякуючы якім яно лёгка разносіцца ветрам. ‖ *прым.* **дзьмухаўцо́вы,** -ая, -ае.

**ДЗЬМУ́ХАЦЬ,** -аю, -аеш, -ае; *незак.* Перарывіста дзьмуць. *Д. на шклянку з гарачым чаем.* ‖ *аднакр.* **дзьму́хнуць,** -ну, -неш, -не; -ні. *Д. на свечку.* ‖ *наз.* **дзьму́ханне,** -я, *н.*

**ДЗЬМУ́ЦЦА,** -муся, -ме́шся, -ме́цца; -мё́мся, -мяце́ся, -му́цца; -мі́ся; *незак., на каго-што* і *без дап.* (разм.). Сердавацца, крыўдзіцца, выказваць сваім выглядам незадаволенасць. *Цэлы тыдзень дзьмецца на старшыню.*

**ДЗЬМУЦЬ,** дзьму, дзьмеш, дзьме; -мём, -мяце́, -муць; -мі; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Веяць, гнаць паветра. *Дзьмуў лёгкі ветрык.* **2.** З сілай выпускаць з рота струмень паветра. *Д. на агонь. У дудку дзьме хлапчук.* ◊ **Куды вецер дзьме** (разм. неадабр.) — не мець сваёй думкі, прыстасоўвацца да існуючых меркаванняў.

**ДЗЮ́БА,** -ы, *мн.* -ы, дзюб, *ж.* У птушак: рагавое ўтварэнне з дзвюх падоўжаных сківіц. *Арліная д.* ◊ **З камарыную дзюбу** (разм.) — пра што-н. малое, мізэрнае. ‖ *памянш.* **дзю́бка,** -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.*

**ДЗЮБА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** З доўгай дзюбай. *Д. бусел шпацыруе.* **2.** Падобны на дзюбу. *Прамову гаварыў чалавек з дзюбатым тварам.*

**ДЗЮ́БАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак.* **1.** Пра птушак: мець звычку дзюбаць каго-н. *Гусі дзюбаюцца.* **2.** Біць дзюбай адзін аднаго. *Пеўні дзюбаюцца на сметніку.*

**ДЗЮ́БАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што* і *без дап.* (разм.). **1.** Дзяўбаць (пра птушак). **2.** Удараць чым-н. вострым або ўдарацца аб што-н., пакідаючы след. *Д. лапаю лёд. Кулі дзюбаюць жалеза.* ◊ **Дзюбаць носам** (разм.) — драмаць, то апускаючы, то ўзнімаючы галаву. ‖ *аднакр.* **дзю́бнуць**, -ну, -неш, -не; -ні *і* **дзюбану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́, -нём, -няце́, -ну́ць, -ні́. ‖ *наз.* **дзюбанне**, -я, *н.*

**ДЗЮ́БНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* **1.** *гл.* дзюбаць. **2.** Выпіць спіртнога (разм.). *Добра дзюбнулі на вяселлі.*

**ДЗЮДАІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца дзюдо. ‖ *ж.* **дзюдаі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **дзюдаі́сцкі**, -ая, -ае.

**ДЗЮДО́**, *нескл., н.* Японская барацьба вольнага стылю.

**ДЗЮ́НЫ**, дзюн, *адз.* дзю́на, -ы, *ж.* Узбярэжныя пясчаныя наносы, якія перамяшчаюцца ветрам. ‖ *прым.* **дзю́нны**, -ая, -ае.

**ДЗЮРА́ЛЬ**, -ю, *м.* Тое ж, што і дзюралюміній. ‖ *прым.* **дзюра́левы**, -ая, -ае.

**ДЗЮРАЛЮМІ́НІЙ**, -ю, *м.* Лёгкі трывалы сплаў алюмінію з меддзю, магніем і іншымі элементамі. ‖ *прым.* **дзюралюмі́ніевы**, -ая, -ае.

**ДЗЮРЧА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чы́ць; *незак.* (разм.). Цурчаць, ствараць булькатлівыя гукі. *Ручаёк дзюрчаў па каменьчыках.*

**ДЗЮШЭ́С**, -у, *м.* Гатунак паўднёвых дэсертных груш з сакавітай салодкай мякаццю. ‖ *прым.* **дзюшэ́сны**, -ая, -ае.

**ДЗЯБЁЛЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Укормлены, сыты. *Д. мужчына.* **2.** Тоўсты, грубы (пра тканіну). *Дзябёлае сукно.* ‖ *наз.* **дзябёласць**, -і, *ж.*

**ДЗЯВА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца, са словамі «куды», «некуды» (разм.). **1.** *незак.* (*цяпер. час*). Знікаць. *Кудысьці кнігі з паліцы дзяваюцца?* **2.** *зак.* (*прош. час*). Знікнуць, прапасці невядома куды. *Куды дзяваўся мой партфель?*

**ДЗЯВА́ЦЬ** *гл.* дзець.

**ДЗЯВО́ЦКІ**, -ая, -ае. Тое, што і дзявочы. *Д. гонар.*

**ДЗЯВО́ЦТВА**, -а, *н.* Стан да шлюбу, а таксама стан жанчыны, якая не ўступіла ў шлюбныя адносіны. *У дзявоцтве Сяргеева.*

**ДЗЯВО́ЧНІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* У народным вясельным абрадзе: вечарынка з таварышамі ў хаце нявесты напярэдадні вянчання, а таксама наогул вечарынка, на якую збіраюцца дзяўчаты, жанчыны.

**ДЗЯВО́ЧЫ** *гл.* дзяўчына.

**ДЗЯ́ГА**, -і, *ДМ* дзя́зе, *мн.* -і, дзяг, *ж.* Рэмень, папруга паясная. *Цэны прымусілі падцягнуць дзягі.* ‖ *памянш.* **дзя́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.*; *прым.* **дзя́жачны**, -ая, -ае *і* **дзя́жкавы**, -ая, -ае. ‖ *прым.* **дзя́жны**, -ая, -ае *і* **дзя́гавы**, -ая, -ае.

**ДЗЯ́ГІЛЬ**, -ю, *м.* Высокая травяністая меданосная расліна сямейства парасонавых з зеленавата-белымі кветкамі; выкарыстоўваецца ў медыцыне. ‖ *прым.* **дзя́гільны**, -ая, -ае.

**ДЗЯГЦЯ́Р**, дзегцяра́, *мн.* дзегцяры́, дзегцяро́ў, *м.* Той, хто гоніць або прадае дзёгаць. *Д. заўсёды пракураны дымам і дзёгцем.* ‖ *ж.* **дзягця́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **дзягця́рскі**, -ая, -ае.

**ДЗЯГЦЯ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** *гл.* дзягцяр. **2.** Пасудзіна для дзёгцю; мазніца.

**ДЗЯГЦЯ́РНЫ** *гл.* дзёгаць.

**ДЗЯГЦЯ́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань, *ж.* Прадпрыемства, якое вырабляе дзёгаць. *Пабудавалі новую дзягцярню.*

**ДЗЯГЦЯ́РСТВА**, -а, *н.* Выганка дзёгцю. *Займацца дзягцярствам.*

**ДЗЯ́ДЗІНА**, -ы, *мн.* -ы, -дзін, *ж.* Дзядзькава жонка; цётка. *У хаце ўсе паважалі працавітую дзядзіну.*

**ДЗЯДЗІ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (гіст.). **1.** Цэнтральная частка старажытнага горада, умацаваная валамі, а пазней мураванымі сценамі і драўлянымі вежамі. **2.** Прасторны двор, агароджаны пляц (звычайна перад маёнткам, царквой; разм.).

**ДЗЯ́ДЗЬКА**, -і, *мн.* -і, -аў *і* (да 2 знач.) -і́, -о́ў, *м.* **1.** Бацькаў або матчын брат. *У госці прыехаў д. Лявон.* **2.** Дарослы мужчына наогул, да якога звяртаюцца дзеці. *Скажыце, д., як прайсці ў Бадзінава?* ◊ **І кіта, дзядзька Мікіта** (разм.) — і ўсё тут. ‖ *ласк.* **дзя́дзечка**, -і, *мн.* -і, -чак, *м.*

**ДЗЯДЗЬКАВА́ННЕ**, -я, *н.* (гіст.). Звычай у беларускіх землях канца 16 — пач. 18 ст. — аддаваць дзяцей шляхты ў сялянскую сям'ю, каб выхаваць у іх станоўчыя фізічныя і духоўныя якасці простага народа: працавітасць, сілу, непатрабавальнасць да яды і адзення, любоў да зямлі і вернасць ёй.

**ДЗЯ́ДЗЬКАЎ**, -кава. Які належыць дзядзьку. *Дзядзькава хата.*

**ДЗЯ́ДЗЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *м.* Дарослы мужчына (у мове дзяцей). *Мама, у таго дзядзі смешны капялюш.*

**ДЗЯДО́К** *гл.* дзед[1].

**ДЗЯДО́ЎНІК**, -у, *м.* Зараснік пустазелля ў выглядзе калючых учэпістых пупышак.

**ДЗЯДО́ЎСКІ** *гл.* дзед[1].

**ДЗЯДУ́ЛЯ, ДЗЯДУ́НЯ, ДЗЯДУ́СЯ** *гл.* дзед[1].

**ДЗЯДЫ**[1], -о́ў. **1.** Людзі, якія жылі раней; продкі. *Д. і прадзеды нашы.* **2.** Абрад памінання нябожчыкаў, а таксама дзень, калі выконваўся гэты абрад.

**ДЗЯДЫ**[2], -о́ў, *адз.* дзед, -а, *М* -дзе, *м.* Пустазелле з калючым лісцем і ўчэпістымі пупышкамі. *На штаны начаплялася дзядоў.*

**ДЗЯЖА́**, -ы́, *мн.* дзе́жы і (*з ліч. 2, 3, 4*) дзяжы́, дзеж, *ж.* Вялікая дзежка для заквашвання цеста на хлеб. *Хлебная д.*

**ДЗЯ́ЖАЧНЫ, ДЗЯ́ЖКА, ДЗЯ́ЖКАВЫ, ДЗЯ́ЖНЫ** *гл.* дзяга.

**ДЗЯЖУ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (разм.). Памяшканне, пакой для дзяжурства.

**ДЗЯЖУ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які нясе дзяжурства. *Д. урач. Д. магазін* (які працуе пазней за іншыя магазіны). **2.** **дзяжу́рны**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Асоба, якая нясе дзяжурства. *Д. па кухні.* **3.** Загадзя падрыхтаваны, пастаянна ўжывальны. *Дзяжурная страва ў рэстаране. Дзяжурныя цытаты.*

**ДЗЯЖУ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* **1.** Выконваць па чарзе якія-н. абавязкі. *Д. па вакзале.* **2.** Доўга і неадлучна прысутнічаць пры кім-, чым-н. *Д. ля пасцелі хворага.* **3.** Вартаваць, пільнаваць. *Д. ля склада.* ‖ *наз.* **дзяжу́рства**, -а, *н.*

**ДЗЯК**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* У праваслаўнай царкве: ніжэйшы служыцель, які не мае ступені свяшчэнства; псаломшчык. ‖ *прым.* **дзяко́ўскі**, -ая, -ае.

**ДЗЯ́КАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; *незак., каму-чаму.* Выказваць падзяку каму-н. за што-н. *Дзякую вам за добрую працу!* ◊ **Шчыра дзякую** — пачціва-ветлівае выказванне падзякі. ‖ *зак.* **падзя́каваць**, -кую, -куеш, -куе; -куй.

**ДЗЯКО́ВІЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Сын дзяка.

**ДЗЯКО́ЎНА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (разм.). Дачка дзяка.

**ДЗЯ́КУЙ**. **1.** *каму* і *без дап.* Ужыв. як выражэнне падзякі; дзякую. *Д. таварышам, што дапамаглі. Д. за хлеб-соль.* **2.** **дзя́куй**, *нескл., н.* Падзяка, удзячнасць. *Вялікі (вялікае) д. Партызанам — народнае д.!* ◊ **Дзякуй (дзякаваць) богу** (разм.) — у сэнсе: добра, нядрэнна. **Дзякуй за ласку** (разм. іран.) — ужыв. як выражэнне нязгоды з чым-н. **За дзякуй** (разм.) — бясплатна (рабіць што-н.).

**ДЗЯ́КУЮЧЫ**, *прыназ. з Д.* З прычыны, з-за, з дапамогай. *Паправіўся д. медыцыне. Выратаваўся д. выпадку.*

**ДЗЯЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* дзяліць, -цца. **2.** Матэматычнае дзеянне, шляхам якога пазнаецца, у колькі разоў адна велічыня большая за другую. *Д. лікаў. Д. дробаў.* **3.** Спосаб размнажэння ў прасцейшых арганізмаў і клетак. *Д. клетак.* **4.** Адлегласць паміж дзвюма рыскамі на вымяральнай шкале. *Ртуць на тэрмометры паднялася на тры дзяленні.*

**ДЗЯЛІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адносіцца да дзялення (у 2 знач.). **2.** Прызначаны для нанясення дзяленняў на вымяральныя шкалы (спец.). *Д. цыркуль. Дзялільная машына.*

**ДЗЯЛІ́МАЕ**, -мага, *н.* Лік або велічыня, якая падвяргаецца дзяленню.

**ДЗЯЛІ́МАСЦЬ**, -і, *ж.* Уласцівасць цэлага ліку дзяліцца на другі цэлы лік без астачы. *Адзнакі дзялімасці.*

**ДЗЯЛІ́ЦЦА**, дзялю́ся, дзе́лішся, дзе́ліцца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Валодаць здольнасцю дзяліцца на другі лік без астачы. *Дзесяць дзеліцца на пяць.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Падзяляцца на часці. *Вучні дзеляцца на групы.* **3.** *з кім.* Раздзяляць маёмасць з кім-н. *Дзяліліся сыны з бацькамі.* **4.** *чым і з кім.* Аддаваць каму-н. частку свайго чаго-н. *Д. апошнім кавалкам хлеба.* **5.** *перан., кім з чым.* Узаемна абменьвацца чым-н. *Д. думкамі. Д. вопытам.* ‖ *зак.* **падзялі́цца**, -дзялю́ся, -дзе́лішся, -дзе́ліцца (да 2, 3, 4 і 5 знач.) *і* **раздзялі́цца**, -дзялю́ся, -дзе́лішся, -дзе́ліцца (да 1, 2 і 3 знач.). ‖ *наз.* **дзяле́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.) *і* **раздзяле́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ДЗЯЛІ́ЦЬ**, дзялю́, дзе́ліш, дзе́ліць; дзелены; *незак.* **1.** *каго-што.* Падзяляць на часткі, размяркоўваць. *Д. маёмасць. Д. на порцыі. Д. вучняў на групы.* **2.** *што на што.* Рабіць арыфметычнае дзеянне. *Д. адзін лік на другі.* **3.** *што з кім.* Аддаваць каму-н. частку чаго-н. свайго для сумеснага карыстання: дзяліць з кім-н. *Таварышы дзялілі ўсё папалам. Д. хлеб і соль.* **4.** *перан., што з кім.* Перажываць што-н. разам з кім-н. *Д. з кім-н. радасць і гора.* ‖ *зак.* **падзялі́ць**, -дзялю́, -дзе́ліш, -дзе́ліць *і* **раздзялі́ць**, -дзялю́, -дзе́ліш, -дзе́ліць; -дзе́лены (да 1, 2 і 4 знач.). ‖ *наз.* **дзяле́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ДЗЯЛО́К**, -лка́, *мн.* -лкі́, -лко́ў, *м.* (неадабр.). Чалавек, які лоўка вядзе свае справы, не грэбуючы ніякімі сродкамі для дасягнення мэты. *Біржавыя дзялкі. Д. цёмных спраў.*

**ДЗЯЛЬБА́**, -ы́, *ж.* Падзел, размеркаванне. *Д. здабычы. Д. маёмасці.*

**ДЗЯЛЯ́ГА**, -і, *мн.* -і, -ля́г, *м.* (разм. неадабр.). Чалавек, заклапочаны толькі такімі справамі, якія прыносяць найбліжэйшую асабістую выгаду.

**ДЗЯЛЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Участак зямлі, лесу, адведзены для апрацоўкі, пад высечку. **2.** Участак зямлі пад лесам; дача. **3.** Тое, што атрымана пры дзяльбе, частка, доля. ‖ *прым.* **дзяля́начны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

